



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

11 верасня 2015 года №37 **(1063)**






## 5 дзяцей

## Колькі трэба яшчэ, каб атрымаць жыллё


Чытайце на 5-й старонцы


Фота Наталлі ТУР.

















Вучні маладзечанскай гімназіі №10 сёлета 1 верасня на ўрачыстай лінейцы.

Фота Настассі РОЎДЫ.

АДУКАЦЫЯ

# Дзве гімназіі перайшлі на самафінансаванне

## Новая сістэма прывучыць эканоміць і дазволіць больш зарабляць

МАЛАДЗЕЧНА

**Гімназіі №6 і №10 у Маладзечне апрабуюць навінку.**

Якія перавагі дае новаўвядзенне, распавяла дырэктар гімназіі №10 **Таццяна Камкова**.

Самафінансаванне дае больш магчымасцяў фарміраваць штатны расклад і бюджэт. Установа адукацыі ведае, якую суму мае, і адпаведна размяркоўвае, колькі выдаткаваць на аплату паслуг, а што можа выдзеліць на пакупкі і іншыя патрэбныя артыкулы расходаў.

Сярод асноўных пераваг для гімназіі – павышэнне пазабюджэтных сродкаў, якія застануцца ў гімназіі, а кіраўніцтва зможа іх выдаткоўваць на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы, развіццё ўстановы адукацыі.

Сістэма дазваляе больш самастойна распараджацца даходамі ад пазабюджэтнай дзейнасці. Сярод іх апякунскія сродкі, добраахвотныя ўзносы бацькоў, спонсарская дапамога, прыбытак ад платных паслуг. Гімназія арганізуе заняткі на платнай аснове па асобных прадметах, па падрыхтоўцы да паступлення ў першы клас, да здачы ўступных іспытаў у пяты, камп'ютарныя курсы для дарослых, спартыўна-аздараўленчыя заняткі. Збор металалому і макулатуры таксама ідзе ў скарбонку гімназіі.



Таццяна Камкова.

Фота Настассі РОЎДЫ.

Пераход на фінансавую самастойнасць стымулюе самім эканоміць электра- і цеплаэнергію. Члены калектыву пра гэта думаюць усё больш, таму што ў пэўнай ступені ад эканоміі залежыць зарплата.

Да пераходу на фінансавую самастойнасць рыхтаваліся загадзя. Яшчэ поўны круг, поўны фінансавы год гімназія не прайшла ў новых умовах і цалкам не адчула ўсю эфектыўнасць сістэмы. Але ўжо ёсць вынікі.

Бухгалтэрыя цяпер месціцца ў гімназіі як асобнае структурнае падраздзяленне. У ёй два бухгалтары і галоўны бухгалтар. Гэта нашмат больш зручна для ўсяго калектыву. Не трэба ісці ў аддзел адукацыі, напрыклад, калі згубілі картку, ці вырашыць іншыя пытанні па выплатах.

– Гэта яшчэ не ўсе перавагі, – дадае Таццяна Камкова. – Мы можам больш проста і хутка прымаць кіраўнічыя рашэнні, пашыраем кола дзелавых зносін з калегамі. Чым у большым коле спраў ты ўдзельнічаеш, тым больш развіваешся. Вядома, самафінансаванне не адмаўляе бюджэтных сродкаў. І нам, і гімназіі №6 аддзел адукацыі, спорту і турызму выдзеліў пэўны бюджэт. А мы цяпер падрыхтавалі бюджэтны каштарыс на 2016 год. Ужо самі ўпершыню паспрабавалі сфарміраваць. Залажылі зарплату, што плануем набыць, усе іншыя артыкулы.

### Эканомія дазволіць больш зарабляць

Перамены з прэміямі і надбаўкамі настаўнікаў пакуль не чакаюць – іх налічваюць у адпаведнасці з дадаткам да калектыўнай дамовы пра матэрыяльнае стымуляванне. Аднак будзе фарміравацца фонд эканоміі. І з яго можа атрымацца выдаткоўваць сродкі на павышэнне зарплаты.

Гімназія плануе павялічыць прыбытак – пашырыць спектр прадметаў, па якіх аказваюць платныя паслугі. Магчыма, адкрыюць новыя курсы. Досвед у гэтай справе маюць: раней праводзілі курсы польскай мовы.

– За ўсю педагагічную дзейнасць у мяне яшчэ не было такога пазітыўнага настрою, як сёлета, – падсумоўвае Таццяна Камкова. – Мы працуем як адна каманда, імкнёмся да аднаго выніку – развіцця гімназіі, камфортных умоў. І для вучняў, і для бацькоў, і для педагогаў самае галоўнае – пазітыўны настрой, унутраны спакой і ўпэўненасць у сабе.

Гімназія №10 стымулюе і вучняў добра вучыцца і ўдзельнічаць у даследчай рабоце і алімпіядах. Для заахвочвання выплачваюць аднаразовую стыпендыю апякунскага савета, якую ўручаюць на гімназічных лінейках. Уручэнне вельмі ўрачыстае, а стыпендыя прэстыжная. Вучань атрымлівае сертыфікат, які можна размясціць у кутку дасягненняў, а за грошы зрабіць сабе сюрпрыз.

– Вельмі важна, што вучні бачаць: зарабіць можна і інтэлектуальнай працай, – падкрэслівае дырэктар гімназіі. – Самы вялікі памер стыпендыі дасягаў 400 тысяч рублёў. Для школьнікаў гэта прыстойныя грошы.

### “Толькі так і павінна быць”

Досвед працы па прынцыпе самафінансавання ўжо маюць гімназія-каледж мастацтваў і Радашкавіцкая школа-інтэрнат. Сваю ацэнку сістэме мы папрасілі даць дырэктара школы-інтэрната **Ігара Дзятлоўскага**:

– Мы заўсёды так працавалі. Лічу, што толькі так і павінна быць. Мы самі плануем, як размеркаваць бюджэт, а таксама пазабюджэтныя сродкі. І якія мэты першачарговыя, нам нашмат больш зразумела, чым чалавеку з аддзела адукацыі, адарванаму ад нашай установы.

Мінскі аблвыканкам мае на мэце перавесці на самафінансаванне і іншыя школы вобласці.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

20 ГОД “РГ”

## Юры Палонскі: “Рэгіянальная” – у добрым сэнсе стабільная газета”

**Удзельнік клуба гістарычнай рэканструкцыі “Паходня” з Вілейкі Юры Палонскі прыгадвае, як пазнаёміўся з “РГ”:**



Фота забяспечана Юрыем ПАЛОНСКІМ.

– Колькі памятаю сябе з маленства, бацька заўсёды выпісваў “Рэгіянальную газету”. Само сабой, у дзяцінстве мяне найбольш цікавіла праграма тэлеперадач. Тут яна была больш змястоўная і адаптаваная пад тыя каналы, якія ў нас ішлі.

Як падрос, пачалі цікавіць гістарычныя артыкулы ды розныя матэрыялы пра Вілейскі і Маладзечанскі край.

Ад таго часу ў нас на стале звычайна менавіта “Рэгіянальная”.

Запомніўся такі выпадак. Сядзелі ў кватэры, а з кухні вылецеў тата з кавалкам “Рэгіянальнай газеты”. У нумары надрукавалі гістарычны экскурс пра падзеі пачатку 90-х гадоў, як у Беларусі абвяшчалі незалежнасць. Архіўны здымак змясцілі, як народ мітынгуе ў Мінску. І ў першых шэрагах бацька пазнаў сябе.

Чым падабаецца газета? Яна без нейкай залішняй палітыкі, не загружае праблемамі. Няма такіх рэзкіх пераходаў, як бывае ў іншых выданнях: сёння ўсё квітнее, а заўтра ўсе дрэнна. А ў “Рэгіянальнай” усё з гэтым стабільна – у добрым сэнсе, стабільна.

Памятаю час, калі ў газету шмат пісалі старшакласнікі. Можа, калі гэта было непрафесійна, але было цікава глядзець, як моладзь спрабуе свае сілы. Хацеў бы, каб і цяпер падлеткі часцей друкаваліся.

А так у газеце ўсяго дастаткова, і трэба развівацца па такім шляху.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## У Мядзеле новы кіраўнік спраў райвыканкама

МЯДЗЕЛ

Кіраўніком спраў Мядзельскага раённага выканаўчага камітэта ад 1 верасня прызначаны **Руслан Жук**.

Ён нарадзіўся на Мядзельшчыне, яму 35 год. Атрымаў вышэйшую адукацыю: скончыў Акадэмію кіравання.

Апошнія тры гады Руслан Жук працаваў кіраўніком спраў Нарацкага сельвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейка стане сталіцай абласных “Дажынак”

МЯДЗЕЛ

Пра гэта паведаміў 8 верасня старшыня Мінскага аблвыканкама **Сямён Шапіра** падчас выязной прэс-канферэнцыі ў Стаўбцоўскім раёне.

“Вілейскі раён паспяхова развіваецца і з году ў год паказвае адны з самых высокіх вынікаў у сельскай гаспадарцы. Сёлета гаспадаркі Вілейшчыны дадалі да плана па намалоце папярэдняга года яшчэ 20 тысяч тон збожжа, і гэта нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы надвор'я. У апошнія гады ў Вілейцы актыўна будуюцца сацыяльныя аб'екты, уладкоўваюцца вуліцы. З кожным годам горад становіцца ўсё больш прыгожым. Менавіта таму мы надалі яму такое ганаровае права прымаць у сябе адно з самых галоўных святаў вобласці”, – сказаў Сямён Шапіра.

На правядзенне свята працаўнікоў вёскі Мінскай вобласці плануецца выдаткаваць 10 мільярдаў рублёў са сродкаў абласнога бюджэту.

**Паводле БЕЛТА.**

● ДАРОЖНАЯ СЛУЖБА

# Мабілы валяюцца на абочынах, тэлевізары – на прыпынках

ВІЛЕЙКА

**Такія рэчы знаходзілі працаўнікі дарожнай службы на Вілейшчыне. Цяпер вялікія рэчы да прыпынкаў людзі вазіць перасталі.**


Фота Ігара МАРОЗА.

Вілейскія дарожнікі збіраюць смецце на аўтобусных прыпынках.

– Прыток смецця да аўтадарог скараціўся ў сувязі з праграмай уладкавання ў кожным населеным пункце кантэйнерных пляцовак, – расказвае начальнік ДЭУ-63 "Мінскаўтадарцэнтра" **Андрэй Квяткевіч**. – Ужо па гэтай вясне было бачна, што на нашых прыпынках і пляцоўках старыя канапы, тэлевізары, халадзільнікі, хатні рыштунак проста зніклі. А калі не было кантэйнераў у вёсках, то прывозілі і паўсюдна пакідалі.

Ад красавіка ў Мінскай вобласці сталі ўстанаўліваць фотапасткі, што фіксуюць дзеянні парушальнікаў. Напрыклад, такія з'явіліся ў Вілейскім доследным лясгасе.

– Мы пакуль не ставілі фотапастак. Але калі сітуацыя будзе ўскладняцца, будзем прапрацоўваць гэта пытанне, – кажа Андрэй Квяткевіч. – Цяпер мы пайшлі іншым шляхам. Там, дзе вялікі прыток смецця на аўтобусны прыпынак, дадаткова паставілі кантэйнер. І такой карціны, што сметніца абкладзеная гарой пакетаў, няма. Сумлення ўсё ж хапае ў людзей, каб адкрыць кантэйнер і кінуць смецце туды.

### Спякотай прыбіралі смецце два-тры разы на дзень

Больш клопатаў у дарожнікаў было ў спякотныя дні, калі на берагі вадасховішча прыязджала багата адпачывальнікаў.

– Пасля адпачынку некультурныя людзі, напэўна, пакідалі смецце ў лесе, а больш культурныя везлі кантэйнеры да нашых прыпынкаў і стаянак, – заўважае Андрэй Квяткевіч.

У спякотныя дні кантэйнер напаўняўся прыкладна за тры гадзіны. Спякотай даводзілася адпраўляць транспарт на ўборку два-тры разы на дзень.

Зараз больш актуальнае пытанне – смецце на абочынах уздоўж дарог. Выкідваюць з машын пачкі ад чыпсаў і цыгарэт, бутэлькі. Знаходзяць дарожнікі мабільнікі, грошы, прычым не толькі беларускія, трапляліся і даляры.

Колькі выпадкаў было, што лавілі і штрафавалі тых, хто, не доўга думаючы, адкрывае фортачку машыны і выкідвае смецце. Аднак менш яго на абочынах пакуль не становіцца.

**Даведка "РГ".**
За парушэнне часткі першай артыкула 18.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях "выкіданне смецця ці іншых прадметаў з транспартнага сродку" можна атрымаць штраф ад адной да дзвюх базавых велічынь.
Амаль пяць мільярдаў рублёў выдаткавала прадпрыемства, якое абслугоўвае мясцовыя дарогі Мінскай вобласці, "Мінскаблдарбуд", за першае паўгоддзе 2015 года на вываз смецця з дарог.

**Самы складаны перыяд для дарожнікаў – час, калі сходзіць снег. Даводзіцца працаваць двары тыдні, каб прыбраць смецце з усіх дарог.**

### Прычэп смецця з дарог

Графік уборкі дарог узгадняецца з Міністэрствам транспарту, мясцовай уладай і інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Для звычайных умоў смецце на асноўных дарогах убіраюць праз дзень. Гэта тычыцца дарог з большай інтэнсіўнасцю руху: з Мінска на Нарач (Р28), Мінск-Калачы-Мядзел (Р58). Там, дзе меншая інтэнсіўнасць, напрыклад, Барысаў-Вілейка-Ашмяны (Р63), Ушачы-Вілейка (Р29), смецце ўбіраюць праз двое сутак.

У сярэднестатыстычны дзень па патруляванні дарог Вілейскага раёна набіраецца трактарны прычэп смецця – роўна з бартамі. Гэта смецце і з аўтобусных прыпынкаў, і вялікія прадметы з абочыны.

### Паводзьце сябе на дарогах, як дома

Ад кіроўцаў і пасажыраў Андрэй Квяткевіч нічога звышнатуральнага не патрабуе: такіх жа адносін да дарог, як і да свайго дома:

– Дома перад тэлевізарам вы з'ясце тую ж шакаладку ці марожанае. Чамусьці сіл і сумлення хапае, каб падняцца, данесці да сметніцы і выкінуць абгортку. Зразумела, бо гэта ў сябе дома. Тут мы не кідаем смецце на падлогу перад сабой і не чакаем, пакуль яно назапасіцца, каб нехта прыбраў. Хочацца сказаць людзям, каб паводзілі сябе на дарогах, як дома. Калі там выкідаеце паперку ў сметніцу, то і на дарогах не выкідайце яе праз фортку машыны. Давязіце дадому ці да бліжэйшай сметніцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.09 руб. | 10.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 17 491,00 | **17 807,00** |
| Еўра | 19 692,00 | **19 898,00** |
| Злоты | 4 645,99 | **4 735,53** |
| Расійскі рубель | 262,43 | **263,13** |
| Грыўня | 788,77 | **810,79** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 2.09** | | |
| Еўра | 19500/19800 | **19800/20000** |
| Долар ЗША | 17350/17600 | **17750/17870** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **2.09** Цана руб. | **9.09** |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **136 200** |
| Сасіскі, 1 кг | 54 800 | **54 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 95 000 | **95 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37 900 | **37 500** |
| Селядзец, 1 кг | 48 000 | **48 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95 000 | **120 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 15 500 | **12 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12 000 | **12 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 22 800 | **23 000** |
| Маянэз, 200 г | 5 000 | **5 000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 200** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **11 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 10 200 | **6 000** |
| Капуста, 1 кг | 4 200 | **5 000** |
| Морква, 1 кг | 6 000 | **7 000** |
| Баклажаны, 1 кг | 10 900 | **12 000** |
| Лімоны, 1 кг | 26 900 | **37 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 24 500 | **27 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 26 900 | **27 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 27 600 | **32 000** |
| Ківі, 1 кг | 39 900 | **45 000** |
| Нектарыны, 1 кг | 19 500 | **20 000** |
| Буракі, 1 кг | 5 400 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 7 800 | **8 000** |
| Агуркі, 1 кг | 5 900 | **8 000** |
| Перац, 1 кг | 10 500 | **12 500** |
| Вінаград, 1 кг | 27 500 | **27 000** |
| Бананы, 1 кг | 10 900 | **16 000** |
| Кавун, 1 кг | 4 500 | **5 000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 9 500 | **12 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 8 000 | **8 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | **27 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 5 000 | **5 000** |
| Сала, 1 кг | 140 000 | **140 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 22 000 | **22 000** |
| Мёд, 0,5 л | 55 000 | **55 000** |

● ДАРОГІ

## Ля Вілейкі пачалі рамантаваць дарогу

ВІЛЕЙКА

**Ад 8 верасня работнікі ДРБУ-162 пачалі капітальны рамонт аўтадарогі "Абход горада Вілейкі".**

Рамантуюць ад перакрыжавання ў мікрараёне "Макаўе" да перасячэння з аўтадарогай Р28 (Мінск-Маладзечна-Нарач) у бок Порсы.

Тут абновяць асфальтабетоннае пакрыццё, якое прыйшло ў аварыйны стан, зрэжуць дрэвы, што навісаюць над дарогай, расказаў начальнік ДРБУ-162 **Аляксандр Майстровіч**. Таксама паставяць новыя дарожныя знакі.

Да 11 верасня ў дзённы час, калі будуць зразаць дрэвы, дарога можа быць перакрытая.

**Капітальны рамонт плануюць завяршыць да сярэдзіны кастрычніка.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Не змаглі падзяліць песню – паламалі нагу

АСТРАВЕЦ

**Для 35-гадовага астраўчаніна паход у рэстаран скончыўся нявесела.**

Адбылася сутычка, у якой пацярпелы паваліўся і атрымаў двайны пералом нагі.

Улічваючы, што прамога намеру гэтак моцна траўмаваць чалавека ў падазраванага не было, крымінальную справу ўзбудзілі за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці.

Як распавёў оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Астравецкага РАУС **Раман Урублеўскі**, усё пачалося з-за таго, што прыяцель пацярпелага нешта не падзяліў з падазраваным, калі замаўляў музычную кампазіцыю.

Пацярпелы паспрабаваў скончыць канфлікт мірна, але атрымаў удар у твар, упаў і неўзабаве апынуўся ў бальніцы.

Яму зрабілі аперацыю, і нейкі час ён вымушаны быў хадзіць на мыліцах.

Крыўдніка знайшлі па запісе з камеры відэаназірання.

**Ігар БЕЛАЗЁРАЎ, uvd.grodno.by.**



Бяскрыўдная паслуга "Закажыце песню" стала прычынай канфлікту.

## У лесе ля Барысава знайшлі цела нованароджанага. Падазраюць, што яго маці – з Маладзечаншчыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Асобу жанчыны, якая нарадзіла дзіця, ужо ўстанавілі. Ад чаго загінула немаўля – пакуль невядома.**

– Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці правodзіць праверку па факце знаходжання трупа нованароджанага дзіцяці ў лясным масіве Барысаўскага раёна 6 верасня. Следча-аператыўная група ўстанаўлівае акалічнасці здарэння, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Следства знайшло жанчыну, якая нядаўна нарадзіла, але ў яе няма дзіцяці, – меркаваную маці загінулага малога.

**29-гадовую жыхарку Маладзечанскага раёна шукалі ад 4 верасня. Яна накіроўвалася да сяброўкі ў Барысаў, а потым перастала выходзіць на сувязь.**

Цяпер жанчына ў бальніцы, ёй аказваюць неабходную медыцынскую дапамогу.

Прызначаныя судова-медыцынскія экспертызы, у тым ліку для ўстанаўлення прычыны смерці нованароджанага.

**Паводле tut.by.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Падпальваюць і абліваюць фарбай машыны

ВІЛЕЙКА

**10 жніўня суд Вілейскага раёна прызнаў вінаватай жанчыну, якая ў Вілейцы абліла аўто фарбай.**

З улікам рамонту, без якога не абысціся, пацярпеламу нанесеная шкода амаль на 10 мільёнаў рублёў.

Жанчыне далі штраф: 50 базавых велічынь, альбо дзевяць мільёнаў рублёў. Прысуд уступіў у законную сілу.

### Падпальваюць і дамы

Сёлета суд Вілейскага раёна разгледзеў дзве крымінальныя справы, звязаныя са знішчэннем і пашкоджаннем маёмасці. Летась – тры.

У мінулым годзе аднаго асуджанага за падпал машыны пакаралі абмежаваннем волі на чатыры гады з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

Другога за падобнае злачынства пакаралі абмежаваннем волі на тры гады без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

Яшчэ аднаго за падпал дома пазбавілі волі на чатыры гады.

### Нішчаць і шкодзяць маёмасць часцей за ўсё нападпітку

У такіх здарэннях часта замяшаныя нецвярозыя. У 90% выпадкаў – хранічныя алкаголікі. У 50% – з псіхічнымі асаблівасцямі.

Статыстыка гаворыць пра недастатковую прафілактычную работу і кантроль дзяржаўных органаў, абавязаных працаваць у гэтым накірунку.

**Крымінальная адказнасць за знішчэнне або пашкоджанне маёмасці надыходзіць з 14 і 16 гадоў, у залежнасці ад абставін злачынства.**

**Таццяна ТКАЧОВА, вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна.**





● ХУЛІГАНСТВА

## У Маладзечне хуліган выбіў акно ў школьным кабінеце працы

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося за тыдзень да Дня ведаў, 23 жніўня.**

Двое маладых людзей, якім па 19 гадоў, у дзве гадзіны дня распівалі спіртныя напоі ў двары школы №5.

Раптам адзін з іх, не тлумачачы прычыны, шпульнуў камень у акно кабінета працы.

Акно разбілася, шум пачула вартаўніца школы, выклікала міліцыю.

Узбуджаная крымінальная справа.

– Шкода ад учынку, – кажа следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**, – склала 329 тысяч рублёў. Хуліган яе мае намер кампенсаваць, аднак ад пакарання яго гэта не выратуе.

**Наталля ТУР.**

## Пайшоў шукаць маці і разбіў шыбы

МЯДЗЕЛ

**У міліцыю 5 верасня звярнуўся грамадзянін Літвы. Ён скардзіўся, што нехта разбіў пяць шыб у яго палове дома ў вёсцы Логавіны Нарацкага сельсавета.**

А яшчэ сем шыбаў разбілі ў вокнах другой палавіны гэтага дома, якая належыць мясцоваму пенсіянеру.

Праваахоўнікі падазраюць, што шыбы выбіў раней судзімы 44-гадовы жыхар вёскі Чараўкі.

Ён пайшоў удзень, 4 верасня, у суседнюю вёску шукаць маці: падумаў, што яна пайшла да знаёмых. Падышоў да дому. Гаспадар палавіны дома спаў.

Мужчына стаў біць шыбы ў доме драўляным брусам. Пенсіянер прачнуўся, выйшаў і патлумачыў, што яго маці тут няма.

Жыхар Чараўкоў усё роўна не супакоіўся і працягваў біць шыбы ў доме.

Узбудзілі крымінальную справу за хуліганства. Мужчыну затрымалі, вядзецца следства, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі **Міхаіл Сакалдынскі**.

**Аддзел інфармацыі.**

● АКЦЫІ

## ДАІ, Зебра і Робат нагадалі вучням аб правілах дарожнага руху

МАЛАДЗЕЧНА

**Раніцай 4 жніўня дзяржаўтаінспектары разам з Зебрай і Робатам прыйшлі ў СШ №2, каб нагадаць вучням пачатковых класаў пра ПДР.**

Як распавёў інспектар **Сяргей Бартош**, для акцыі выбралі школу №2, таму што ў гэтай зоне, паблізу праезнай часткі Маладзечна-Валожын, часта здараюцца правапарушэнні.

Як адзначыў Сяргей Бартош, сёлета адбыліся ўжо чатыры аварыі з удзелам непаўналетніх. Тры з іх – з удзелам вучняў малодшых класаў на Маладзечаншчыне.

Сабраўшы дзяцей у холе школы, інспектар нагадаў асноўныя меры бяспекі на дарозе. Ён падкрэсліў, што да 12 год дзеці павінны ездзіць у аўтакрэслах.

Падчас кароткага лікбезу дзецям імкнуліся паказаць асноўныя паняцці, таму запрасілі Зебру і Робата Святлафорыча, ролю якіх выконвалі акцёры з "Батлейкі". Паміж справай яны размаўлялі з дзецьмі і раздавалі ім падарункі.

У якасці сувеніраў дзеці атрымалі закладкі, флікеры, дапаможнікі з ілюстрацыямі дарожных знакаў.

Дзяржаўтаінспектар правёў для дзяцей віктарыну на веданне знакаў дарожнага руху.

Дзеці хоць і не называлі дакладныя фармулёўкі, але спрабавалі здагадацца.

Напярэдадні падобныя акцыі правялі ў Палачанскай і Хажоўскай сярэдніх школах.

Ад 10 да 13 верасня ДАІ Маладзечна праводзіць прафілактычную акцыю "Цвярозы кіроўца".

**Дар'я БАБЕНКА.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Каб даць жыллё, шматдзетнай маці прапанавалі ўзяць прыёмных дзяцей

МАЛАДЗЕЧНА

**Аксана Шымель з Чысці з мужам гадуюць пяць дачок. Яна не скардзіцца на недахоп грошай, на цяжкасці бацькоўства. Яна проста хоча, каб у вялікай сям'і з'явілася асобная кватэра, а не пакой на пятым паверсе ў інтэрнаце, дзе на 33 квадратных метрах жылой плошчы месціцца сем чалавек.**

Клапаціцца пра ўласную кватэру Аксана пачала некалькі год таму. Сабрала неабходныя дакументы, стала ў чаргу. За гэты час у сям'і нарадзілася яшчэ трое дзяцей і стала відавочна, што далей так жыць нельга.

– У райвыканкаме нам прапанавалі зямельны ўчастак, – расказвае Аксана, – абяцалі, што дом на ім пабудуюць хутка. Участак той паміж Чысцю і Мазалямі. Прыехалі мы туды, а там гразь па калена. Вядома, адмовіліся. Тут жа з выканкама прыйшла папера, што мы самі адмовіліся ад участка. Я кажу: "Як шматдзетная сям'я мы ў чарзе на паляпшэнне ўмоў 242-я. Чаму ж папярэдняя 241 сям'я адмовілася ад вашага ўчастка?"

Як патлумачылі "Рэгіянальнай газеце" ў Чысцінскім савеце дэпутатаў, існуе дзве чаргі. Калі ў агульным спісе сям'я Шымель 242-я, то ў спісе на выдзяленне зямельных участкаў яны першыя. А ўсяго ў спісе дзевяць сямей.

## Якое вы маеце права патрабаваць заробак мужа?

Летась Аксана запісалася на прыём да старшыні Мінскага аблвыканкама **Сямёна Шапіры**.

– Пакуль я недзе з паўгода чакала прыёму, у мужа пачаліся праблемы з працай. Ён тады працаваў на "Забудове". Заробак быў паўтара мільёна, і тое яго дзялілі на чатыры часткі. Хадзіла, сварылася, патрабавала грошы. Мне тады дзяўчаты з бухгалтэрыі адказвалі: "А якое вы маеце права патрабаваць заробак мужа? Афармляйце аліменты, тады і хадзіце сюды".

Аксана патрабавала ў мужа звольніцца і шукаць іншую працу. На што на рабоце мужу адказалі: "Звальняйцеся, але тады і інтэрнат вызваляйце".

У красавіку Аксану выклікалі на прыём да Сямёна Шапіры.

– Я яму расказала ўсю сваю сітуацыю. Ён спытаўся, дзе працуе муж. На той момант з "Забудовы" муж усё ж звольніўся. Шапіра даручыў уладкаваць на працу мужа. І за гэта я яму ўдзячная. Мужа прынялі ў "Камунальнік" электрагазазваршчыкам.

Але пытанне з жыллём так і засталося адкрытым.

– Я кажу: чаму сем'ям, у якіх выхоўваюцца прыёмныя дзеці, адразу даюць катэджы, а нам не могуць даць нават кватэру? На што Сямён Шапіра сказаў: "А вы гатовыя ўзяць некалькі прыёмных дзяцей? Будзе тады і вам катэдж". Я сама расла ў вялікай сям'і, магла б і ўзяць дзетак. Толькі на той момант малодшай дачцэ, **Каці**, чатыры месяцы было. Сказала, што трэба меншых дзяцей пагадаваць.

**Згодна з указам №563, прэтэндаваць на паляпшэнне жыллёвых умоў могуць тыя, чыя жылая плошча на чалавека меней за 15 квадратных метраў.**

Сямён Шапіра ўзяў пытанне пад асабісты кантроль. Сям'і Шымель прапанавалі трохпакаёвую кватэру па вуліцы Віленскай, у доме, які яшчэ не здалі.

– Хочацца верыць, што мы ўсё ж трапім у гэту кватэру. Але як мне тлумачылі, выканкам гатовы аплаціць яе па сабекошце. А кватэры ў доме ўжо выстаўленыя на продаж па рынкавай цане.

## "Сачыць за дзецьмі трэба лепей"

Пакуль жа сям'я жыве на пятым, апошнім, паверсе ў інтэрнаце.

– Я выпісала спіс жыхароў, што жывуць на першых паверхах, прапаноўвала памяняцца, але ніхто не захацеў.

У Аксаны прыроджаны парок сэрца, ёй цяжка падымацца і адной на пяты паверх, а калі з дзецьмі, яшчэ цяжэй.

Пакуль старэйшыя дочкі **Надзя** і **Віка** ў школе, Аксана выходзіць на вуліцу з трыма малодшымі. **Юлі** чатыры годзікі, **Тані** – два, Каці цяпер восем месяцаў. Аднойчы прагулка магла скончыцца трагедыяй.

Аксана малодшую дачку панесла дамоў, Юля таксама закапрызіла. Аксана папрасіла двухгадовую Таню пасядзець на дзіцячым роварчыку ў двары.

Пакуль несла дваіх дзяцей на пяты паверх, пачула ўнізе крык. Таня плакала на ўвесь двор.

Аксана кінула дзвюх дзяўчынак у пакоі і пабегла ўніз. Аказалася, што суседскі хлопчык хацеў зачапіць вяроўкай роварчык, а зачапіў Таню за шыю.

У двары плач, крык. Хлопчык сам спалохаўся і плача, мама яго просіць прабачэння, Таня крычыць.

На лавачцы побач з месцам, дзе гулялі дзеці, сядзіць жанчына і кажа:

– Сачыць за дзецьмі трэба лепей, не пакідаць адных у двары.

– У мяне ад такой заўвагі аж слёзы на вачах навярнуліся, – кажа Аксана. – Зрэшты, не толькі ад гэтага.

Нядаўна пасёлак Чысць адзначыў сваё 60-годдзе. Калі на сцэне пачалі ўзнагароджваць шматдзетныя сем'і, сям'ю Аксаны на сцэну так і не выклікалі.

– Я потым запыталася, чаму так. А мне адказалі: такі спіс далі ў сельсавеце. А як патлумачыць маім дзецям, што яны засталіся без нічога, калі іншыя дзеці з такіх жа сямей хваліліся падарункамі перад маімі дзяўчаткамі? Ды не ў падарунках справа, справа ў адносінах. Муж цяпер дастаткова зарабляе. Мы можам сабе дазволіць многае. Але куды гэта ўсё ставіць? Тыдзень таму нарэшце набылі пральную машыну. І стаіць яна пасярод кухні, адной на тры сям'і, побач са сталом, таму што іншага месца няма.

## У Чысцінскім сельсавеце 87 шматдзетных сямей

Пракаментаваў сітуацыю старшыня Чысцінскага савета дэпутатаў **Анатоль Пяцюшык**:

– На тэрыторыі Чысцінскага сельсавета 87 шматдзетных сямей. Дзве яшчэ на падыходзе. Ну, не можам мы віншаваць або адзначаць іх усіх адначасова.


Фота Наталлі ТУР.

**Віка вучыцца ў трэцім класе. Любімы прадмет у школе – фізкультура. Дома турнікі і спартыўныя снарады замяняюць дзвярныя праёмы.**

Што датычыцца сітуацыі са святам пасёлка, там, насамрэч, трэба было выбраць тры шматдзетныя сям'і.

– Мы выбралі сем'і, у якіх выхоўваюцца больш за шэсць дзяцей, у якіх маці ўзнагароджаны ордэнам Маці. Паверце, мы сям'ю Шымель заўсёды трымаем на кантролі.

Анатоль Міхайлавіч расказаў, што сям'і двойчы прапаноўвалі зямельныя ўчасткі. Ад першай прапановы яны адмовіліся, на другую прапанову пакуль рашэння няма.

– Ім прапанавалі звярнуцца ў "Забудову-будкомплекс" наконт пытання па долеваму будаўніцтву, але яны пакуль туды не звярталіся.

Было непаразуменне у сям'і Шымель і мясцовых уладаў напярэдадні Новага года.

– На дабрачынную ёлку мы запрашаем шматдзетныя сем'і, сем'і, у якіх выхоўваюцца дзеці-інваліды, сем'і, якія знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы. І, праверце, сям'я Шымель заўсёды наперадзе гэтага спісу.

А Аксана Шымель скардзіцца на тое, што ў двух пакойчыках, дзе яны жывуць, месца няма нават для шафы.

– Калі мяняецца сезон, даводзіцца ездзіць да маёй маці ў Вілейскі раён. Адвозіць туды мяхі летняга адзення і прывозіць у Чысць цёплую вопратку на восень, – кажа Аксана.

А дзеці мараць пра двух'ярусны ложак.


Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

НАВІНЫ

## Знялі забарону на наведванне лясоў

Рашэнне прынялі 7 верасня. Пра гэта "РГ" расказаў дырэктар Маладзечанскага лясгаса **Анатоль Ермаловіч**.

– Прайшлі дажджы, яны знізілі пажарную небяспеку. Так што можна смела ісці па журавіны ў Маладзечанскім, Вілейскім і Мядзельскіх раёнах.

8 верасня інфармацыя пра адмену забароны з'явілася на сайтах Смаргонскага, Ашмянскага і Астравецкага лясгасаў.

У Валожынскім лягасе адказалі, што забарона знятая ў іх лясах таксама.

## У Касуце паставілі інфармацыйны стэнд

ВІЛЕЙКА

Другі стэнд за год выравілі і ўсталявалі ўдзельнікі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Яго паставілі 2 верасня.

Яшчэ інфармацыйныя стэнды турысты могуць пабачыць у Сэрвачы, Ганусе, Уладыках і Камене. Сёлета запланавана ўсталяваць стэнд яшчэ ў Куранцы.

Пра гэта распавёў кіраўнік вілейскай суполкі таварыства **Дзяніс Канецкі**.

## Маладую жанчыну насмерць збіў цягнік

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося пасля 23 гадзін у суботу, 5 верасня, на станцыі Дубравы. 32-гадовая жанчына ішла па пероне ў накірунку цягніка Калінінград-Масква. Цягнік яе смяротна траўмаваў.

Са слоў машыніста, жанчына ішла хісткай паходкай. Пра гэта распавяла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага АУСТ **Таццяна Субач**.

## Шукаюць зброю, што захоўваюць незаконна

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 14 да 18 верасня Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце праводзіць спецыяльнае мерапрыемства "Арсенал".

Будуць забіраць зброю і боепрыпасы, якія незаконна захоўваюцца.

Тыя, хто здасць іх добраахвотна, пазбавяцца крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці.

Калі вы ведаеце, што нехта незаконна захоўвае выбуховыя рэчы ці прылады, зброю, боепрыпасы, патэлефануйце па нумарах: (80176) 74-24-16, (8029) 863-70-46 ці 102.

**Аддзел інфармацыі.**

ДА 60-ГОДДЗЯ ПІСЬМЕННІКА

# Смех і боль у творах Аркадзя Жураўлёва

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

**Не былі лёгкімі жыццёвыя ды творчыя дарогі Аркадзя Жураўлёва. Пераадольваючы цяжкасці, а, нярэдка, і самога сябе, чэрпаў сілы сярод прыгажосці родных мясцін, дарагіх з маленства сэрцу краявідаў.**


Пісьменнік Аркадзь Жураўлёў.

А ў самых складаных сітуацыях не супраць быў і паіранізаваць над сабой. Не так паддавалася тады шчымлівай болі душа, калі пасля ваеннага ліхалецця, асабліва для вялікіх сем'яў, у такой роднай да болю і незабыўнай вёсачцы Герані, што месціцца на паўднёва-заходнім беразе возера Свір, заўсёды хацелася чаго-небудь паесці.

## Патаемны сшытак дзяцінства

Асабліва цяжка было бацькам, калі не стала кароўкі-карміцелькі. Праўда, вяскоўцы не пакінулі ў бядзе, прыносілі дзецям малака. А вось гарохавыя ды бульбяныя аладкі былі толькі на свята.

Бацькам **Трафіму Рыгоравічу** і **Алене Яфімаўне** хапала клопатаў. Але яны не цураліся аніякай работы. Бацьку даводзілася працаваць шаўцом і рыбаком, паляводам і трактарыстам, загадчыкам фермы, участка. Хапала спраў і маці.

Аркадзь заўважае:

– Менавіта яна аказала асаблівы ўплыў на творчую арыентацыю.

Дзеці ж **Валя**, **Аркадзь**, **Валодзя**, **Люда** раслі паслухмянымі, спагадлівымі і працавітымі: саджалі бульбу, капалі і палолі буракі. З ахвотаю, падросшы, асабліва Аркадзік, з бацькам выязджалі на сенакос.

І ўжо, скончыўшы чатыры класы Волькаўскай пачатковай школы, завёў "патаемны" сшытак. Стаў запісваць у яго свае штодзённыя назіранні. Нярэдка спрабаваў крэмзаць такія-сякія вершы. І першую сваю шчырую заметку ў раёнку "Светлы шлях" ужо з Вішнеўскай сярэдняй школы памятае.

Збіраўся вучыцца на філфаку Гродзенскага педагагічнага інстытута. Ды не ўсё задуманае здзяйснялася. Лёс распарадзіўся па-іншаму. Аказаўся ў прафесійна-тэхнічным вучылішчы радыётэхнікі ў Маладзечне, дзе асвоіў токарную справу.

Пасля службы ў арміі становіцца студэнтам факультэта журналістыкі БДУ. І першая ж творчая практыка на азёрнай і лясістай Мядзельшчыне зачаравала. Упадабаў гэты цудоўна-непаўторны беларускі куточак. У гэтых мясцінах і палавінку сваю знайшоў. **Нона Васільеўна**, выпускніца філалагічнага факультэта, прыехала працаваць у школу, якую заканчваў ён, Аркадзь.

Як два вялікія возеры Нарач і Свір злучаюцца рачулкай Свіранкай, так і яны злучылі свае лёсы, каб разам ісці па імклівым жыцці, дзелячы папалам радасці і трывогі.

Падрасталі дзеці **Вадзім** і **Аксана**, патрабуючы бацькоўскай увагі. І работу з-за абставін даводзілася часта мяняць: працаваў загадчыкам аддзела турыстычнага бюро, кіраўніком групы рэкламы і маркетынгу завода паўправадніковых вентыляў (цяпер – "Электрамодуль"), карэспандэнтам шматтыражнай газеты "Приборостроитель", на іншых прадпрыемствах і на іншых, высокіх і адказных, пасадах. Праўда, дзейнасць у асобныя перыяды жыцця была далёка ад творчай работы.

## Пра перажытае

– Пішу пра людзей, прыроду, падзеі, пра тое, што сапраўды было ў маім жыцці, чым нечалі жыў і жыву сам, – гаворыць пра сваю творчасць Аркадзь Жураўлёў. – Успаміны – як усплёск душы, што ніколі не ведае спачыну. Як туга сэрца, якое пастаянна рвецца да незабыўных гадоў маленства і юнацтва. Да каранёў сваіх...

Умее пільна ўглядацца ў характво лета, яго прыгажосць. Расу. Заход сонца. Летнія белыя абокі. Дождж. Туман... Усё, што ўражвае, кладзецца ў канву кароткіх, захапляльных ды абёмных па змесце апавяданняў.

Першае апавяданне на роднай мове "Спадарожнікі" надрукавала "Чырвоная змена", затым "Тэлефонны званок" – часопіс "Маладосць". Пабачылі свет дзве розныя па накіраванасці яго кнігі – "Апалонік для дырэктара" і "Я жадаю вам дабра...".

Гумар Аркадзя Жураўлёва неагрэсіўны, трапны. Мо, таму, што празаік добра ведае чалавечую натуру. Ды і ўпэўненасць ёсць у яго: хто ўмее пасмяяцца з сябе – валодае вялікай сілай духу. Як адзін чалавек, так і цэлы народ. Жураўлёў перакананы: мы, беларусы, вельмі моцная, упэўненая ў сябе нацыя.

## Яго героі выпрабоўваюць сябе

Апавяданне "Салдацкая зорачка" прысвечанае тым, хто ў змаганні з нямецка-фашысцкімі захопнікамі паў за наш сённяшні светлы мірны дзень. Твор кранальны. Над лініяй фронту раздаецца плач дзіцяці. Савецкія байцы ведаюць, што часам фашысты наўмысна запісваюць гукі, правакуючы нашых. Але наважваюцца ўсё ж рызыкнуць. У выніку галоўны герой Андрэй Галавенчык ратуе хлопчыка, якога катавалі фашысты. У цікавым і прыцягальным апавяданні ваеннай тэматыкі ўмела перададзеная псіхалогія чалавека.

І ў апавяданні "Родныя-чужыя" праз гераіню Зінаіду Міхайлаўну, якая "ўсё жыццё камусьці дапамагала, шкадуючы капейчыну, каб купіць сабе шклянку соку альбо марожанае", умела перададзены душэўны стан жанчыны, старасць для якой стала не спакоем, а бядою...

## Яго творчасць – дотык да сэрца

Але ёсць у нас і апантаныя да самазабыцця людзі. Як настаўнік з Мядзельшчыны, герой апавядання "Светлы след будзе вечна жывы". **Мікалай Пашкевіч**, якому Васіль Быкаў прысвяціў аповесць "Абеліск".

Герой апавядання "Светлы след..." Мікола Арсеньевіч Пашкевіч, чыя "педагогіка заключалася ў далучэнні вучня да роднай гісторыі і мастацтва цераз звычайна-незвычайныя яго ж, Пашкевіча, метады – рознасцежнасць душы сваёй, цераз працу талакою", сцвярджаў, што пустымі словамі маладога чалавека не сфарміруеш. У вучню бачыў асобу і сам быў Асобаю.

Творчасць Аркадзя Жураўлёва прыносіць чытачам усцешнасць і задавальненне. Бо слова пісьменніка – шлях да чалавека, ключ да яго душы, дотык да яго сэрца.

**Аляксандр ХАЗЯНІН, журналіст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Маладзечна.**


На фестывалі дзіцячай кнігі ў Маладзечне мастакі малявалі аквагрымам казачныя сюжэты.


Кожны намагаўся сфатаграфавацца з такімі пазітыўнымі персанажамі.



Якіх толькі кніг не было! Працаваў і буккросінг.

СВЯТЫ

# На фестывалі дзіцячай кнігі ў Маладзечне чытаць пачалі нават каты і цмокі

МАЛАДЗЕЧНА

**5 верасня ў Маладзечне ўпершыню прайшоў фестываль дзіцячай кнігі.**

На цэнтральных алеях парку ў выхадны дзень пасялілася казка.

Героі мультфільмаў і казак прагульваліся ад адной пляцоўкі да другой. Мастакі з дзіцячай школы мастацтваў на паперы малявалі сюжэты вядомых дзіцячых кніг.

Гаспадары пляцовак забаўлялі дзяцей не толькі тым, што расказвалі пра дзіцячыя кнігі, але і частавалі прысмакамі і дарылі падарункі.

Пляцоўка моўных курсаў "Мова Нанова" прапанавала дзецям за салодкі падарунак перакласці словы на беларускую мову або патлумачыць значэнне беларускіх слоў.

Дзеці з цікавасцю спрабавалі адказаць, што такое дыван, ветах, чым гаспадыня адрозніваецца ад гаспадаркі.

Папулярнасцю карысталіся мастакі, якія малявалі казачныя сюжэты ў аквагрыме.

На сцэне ля амфітэатра для маленькіх чытачоў спявалі песні, а тэатр лялек "Батлейка" паказваў казачны спектакль. Дзеці пазнаёміліся з пісьменнікамі, якія пішуць дзіцячыя кніжкі.

Загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Таццяна Закрэўская** расказала "Рэгіянальнай газеце", што мерапрыемства атрымалася:

– Эх, каб яшчэ з надвор'ем пашанцавала, увогуле было б цудоўна!

**Наталля ТУР.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі А6, СЧ, 1997 г.в., 2,5 ТДІ, МКПП, поўны прывод. Т. (8-029) 9176755.

• Аўдзі А6 С5, 1998 г.в., 2,4Б, зялёны. Т. (8-029) 3362994.*

• Аўдзі-100, 1988 г.в., 2,3і, ц/з, чырвоны, у добрым стане, 45 000 000 руб, торг. Т. (8-044) 7711831.*

• ВАЗ-11113 АКА, страхоўка, ТА, на хаду, 13 000 000 руб. Т. (8-029) 6990419.*

• ВАЗ-2110, 1997 г.в., 17 000 000 руб. Т. (8-033) 3592380.

• ГАЗ-3110, 1999 г.в., 2,4Б, добры стан. Вілейка. Т. (8-029) 5784443.*

• Кія-Кларус, 1997 г.в., 1,8 бензін, у добрым стане, 36 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 1057129.

• Мазда-323, 2001 г.в., 1,6 аб'ём, МКП, седан, бензін. Тармінова. Т. Вэлком (8-029) 91165264.*

• Матацыкл "Мінск". Т. (8-029) 7617385.

• Мерседэс W210 (Італія), 3,2 бензін-газ, ёсць усё. Т. (8-033) 6314569.

• Опель-Астра В, 1999 г.в. Т. (8-029) 6056632.

• Опель-Вектра, 1993 г.в., 1,7ТД, 19 000 000 руб. Т. (8-029) 7038367.*

• Опель-Зафіра, 2000 г.в., 1,8 л, бензін, усе опцыі, добры стан, цана дагаворная. Т. (8-029) 2158600.

• Опель-Земфіра, 2000 г.в., 2,0 дызель, цёмна-сіні. Т. (8-029) 5052314.*

• Опель-Кадэт, 1990 г.в., 1,6 мона. Т. (8-029) 7744377.

• Опель-Сінтра, 1998 г.в. Т. (8-0176) 743493, (8-029) 7780722.

• Опель-Франтэра, джып, 2000 г.в., эл.пакет, АБС, канд. Нядорага. Т. (8-029) 6773685.*

• Пежо-307, 2004 г.в., 1,4 бензін, светла-шэры. Т. (8-033) 6373832.

• Пежо-406, 2001 г.в., 2,0 НДІ. Т. (8-029) 5701653.

• Рэно Велсаціс, 2003 г.в., 2,2 СДІ, сіні, з Германії, 80 000 000 руб.Т. (8-029) 6310734.*

• Сітраэн-Ксантыя эксклюзіў, 2001 г.в., 2,0 НДІ, выдатны стан, суперсалон, 2 камплекты новай летняй гумы з дыскамі. Т. (8-029) 7043998.

• ФВ Т4, 1992 г.в., 1,9 дызель, бартавы з дубль-кабінай, без праблем. 84 700 000 руб, торг. Т. (8-029) 1434495.

• ФВ, 1995 г.в., 1,8 GTI, 16v, 38 500 000 руб, торг. Т. МТС (8-029) 7743984.

• ФВ-Пасат Б4, 1995 г.в., 1,9Д, універсал, эл. люк, г/у, ц/з. Добры стан. Т. (8-044) 4986859.*

• Фіят-Марса, 1996 г. в., 1,6 бензін, 5-КПП, цёмна-сіні, седан. Т. МТС (8-029) 5593212.*

• Форд-Транзіт, 1991 г.в., па запчастках. Т. (8-029) 6571997.*

• Шаўрале-Спарк, 2012 г.в.,з Германії, свежапрыгнаны, 5 дзвярэй, чорны, хэтчбэк, 71 тыс. км, 2 ключы, 120 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 6631595.*

• Шаўрале-Aveo, выпуск – снежань 2010 г. Т. (8-0176) 743493, (8-029) 7780722.

• 4 дыскі метал. з гумай, зімовыя, да Аўдзі-80 В4, аркі заднія. Т. (8-029) 7721337.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава. а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуан, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

## КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 6757851.*

• Аўтамабіль, іншамарку, можна з дэфектамі да 30 млн.руб. Т. (8-044) 5572534.*

• **АЎТО** ў любым стане**.** Т. (8-033) 6062301.*

• Любое аўто, з любымі праблемамі, аварыйнае альбо на запчасткі. Т. (8-033) 6920802.*

## ПАСЛУГІ

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Арэнда **ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** АМКАДОР (коўш 2 куб. м), **ЭКСКАВАТАРЫ-ПАГРУЗЧЫКІ** JCB4CX і Беларус 92П (планіроўка, падрыхтоўка ўчастка, катлаваны, траншэі, мантаж калодзежаў, пагрузка смецця), **САМАЗВАЛЫ** 10-, 20-, 30- і 40-тонныя (**БЕТОН**, пясок, гравій, шчэбень, **ПРЫРОДНЫ КАМЕНЬ**, вываз смецця, **ЗНОС БУДЫНКАЎ**), **АЎТАБЕТОНАЗМЯШАЛЬНІК** 6 куб. м, **ГІДРАМАНІПУЛЯТАР** з прычэпам 22 тоны (16 паддонаў). ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• **АРЭНДА ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** ТО-18Б, катлаваны, пагрузка, планіроўка. ІП Каўпак О.Т. УНП 691500412. Т. (8-044) 7645096.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЭІ ПАД ВАДУ, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***

• Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі міні-пагрузчыка, міні-экскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра з рамонтам і абстаноўкай у Вілейцы па вул. 1 Мая. Т. (8-033) 6379544.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-033) 6373832.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 8745490, (8-033) 6380006.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Б.Хмяльніцкага, 4/5. Т. МТС (8-029) 5613058, Вэлком (8-029) 6305176.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 11-а, 49,16/29,5/8, 1 паверх, санвузел раздзельны, лоджыя, падвал. Т. (8-0176) 761939, (8-029) 2620316.*

• 2-пакаёвая кватэра, гараж у Вілейцы. Т. (8-029) 7078401.*

• 3-пакаёвая кватэра па вул. Гагарына, д.11, кв.15 у Вілейцы ці абмен на 1-пакаёвую. Т. (8-033) 3209338, (8-01771) 78079.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай ці абмен. Т. (8-029) 7661769.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-044) 4749439, (8-029) 7760346.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 888111.*

• 3-пакаёвая кватэра, 52,7 м$^2$, у Маладзечне па вул. Машэрава. Т. Вел. 6773685, Вел 6600245.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гараж 5,60 м х 3,80 м. Святло, сухая яма, атынкаваны, дах дрэва, накрыты шыферам, знаходзіцца ў тупіку. Маладзечна, р-н Лясных. 49 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5633465, Вэлком (8-029) 9628589.

• Гараж у ГБК-2 Вілейка, 26 кв.м. Атынкаваны, пафарбаваны, яма. Т. (8-029) 5031298, (8-029) 9034348.

• Гараж у ГБК-5 у Вілейцы. Т. (8-029) 5052314.*

• Дача 2-павярховая, драўляная, СТ "Мараніца", ст. Баяры, вул. Садовая, дом 2. Цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 1092881, (8-017) 2589674 ў Мінску.*

• Дача ў в. Прынта Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 54993.

• Дом з сілікатных блокаў, абкладзены цэглай, 9х9 м, ад берага возера Мядзел 500 м, нядорага, цана дагаворная. Т. (8-044) 4687749.

• Дом з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7324445.

• Дом на вываз у добрым стане, 20 км ад Вілейкі, памер 5,8 х8,7 м. Т. (8-029) 2649526.



• Дом пад дачу у в. Курнікі Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 33930.*

• Дом у в. Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-025) 9298699.

• Дом у Вілейцы. Усе выгоды. Т. (8-029) 7324445.

• Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участок 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы афармлення. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*

• Дом у г.п. Крывічы. Агул. плошча 54,8. Вада ў двары. Т. Вэлком (8-029) 9920556.

• Дом у Маладзечне па вул. Грыцаўца, магчыма з мэбляй, піяніна. Т. (8-029) 2608541.*

## КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 3780215.*

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру 69,5 кв. м у р-не Зеніт на 1-пакаёвую з даплатай. Т. (8-029) 8615201.*

## ЗДАМ

• 3-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін па вул. Ларына, 5, усё ўключана. Т. (8-029) 1282652.*

• У арэнду гараж у Маладзечне ў ГК №12. Т. (8-029) 5681972, (8-029) 1752702.*

• **У АРЭНДУ ПАМЯШКАННІ Ў ЦЭНТРЫ ВІЛЕЙКІ КУП "САДРУЖНАСЦЬ":** 16,4 кв.м, 21,5 кв.м, 11 кв.м, памяшканне магазіна – 36 кв.м. УНП 600102234.Т. (8-01771) 54382, (8-01771) 54283.

• У арэнду ці прадаюцца вытворчыя памяшканні (майстэрні) агульнай плошчай 168 кв.м у раёне чыгункі г. Маладзечна. Можна пад СТА (ёсць гаражныя боксы, два ўчасткі зямлі ў пастаянным карыстанні, цэнтральнае ацяпленне). ТАА "Механічны завод" УНП 600542830. Т. (8-044) 7641131 (пн.-пт. з 8:00 да 17:00).

## НАЙМУ

• У арэнду ў Вілейцы невялікае памяшканне для гандлю з водаправодам і каналізацыяй. Т. (8-029) 7787960.

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Заказ аўтобуса, 15 месцаў. Экскурсіі, вяселлі, юбілеі. ІП Маўчун А.В. УНП 691175867. Т. (8-029) 5684107.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 3 тон, горад, РБ, кватэрныя пераезды. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі да 4 т, тэнтаваны, дубль кабіна, 6 (шэсць) пасажыраў. ІП Шалуха С.Ф. УНП 690021247. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ



• Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець доўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*

• Вяселлі. Юбілеі. Карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Консультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш**. АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "Алекс-Дом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• Бурэнне абісінскіх свідравін (скважин) на ваду. Уладкаванне. Хутка. У любым цяжкадаступным месцы. Дагавор. Гарантыя. ІП Сокалаў Я.В. УНП 691891478. Т. (8-029) 1155222, (8-033) 6339011.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Янцэвіч А.Р. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• **ВАРОТЫ, АГАРОДЖЫ, КАЗЫРКІ, ПОРУЧНІ, МЕТАЛАВЫРАБЫ. ІП АЛЕСКІЎ А.В. УНП 691889597. Т. (8-029) 5015072.***

• **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ І АБЛІЦОЎКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ**. Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Вырабы з металу: дзверы ўваходныя (вонкавыя, ліст 2 мм); вароты гаражныя, уязныя і адкатныя, брамкі, агароджы; навесы, казыркі, альтанкі; агароджы, лаўкі і столік для абуладкавання магілак; рашоткі на вокны; сцелажы зварныя і разборныя; скрыні газавыя; урны, кантэйнеры для ТБА, у тым ліку аўтамабільныя (12/17 куб. м); катлы і ёмістасці і інш. па эскізах заказчыка; шафы для адзення, апоры асвятлення; прыпыначныя пункты; электрашчыты і камплектацыя для падключэння прыватных дамоў; **НАВЯСНОЕ АБСТАЛЯВАННЕ І ПРЫЧЭПЫ ДЛЯ МОТАБЛОКАЎ**. Замеры, дастаўка, устаноўка. **АКАЗВАЕМ ПАСЛУГІ ПА ПАЛІМЕРНАЙ АФАРБОЎЦЫ МЕТАЛАВЫРАБАЎ І ПЛАЗМЕННАЙ РЭЗЦЫ**. ТАА "Механічны завод" УНП 600542830. Т. (8-029) 5040423, (8-0176) 746060 (пн-пт з 8-00 да 17-00).*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

*Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Зробім альтанкі, навесы, лаўкі, вырабы з драўніны. www.artelporticus.deal.by УНП КВ 1312405. Т. (8-044) 7803145.*

• Мантаж сайдынга, вагонкі, імітацыя бруса, блок-хаўса. Укладка ламіната, паркетнай дошкі. ІП Мельнікаў Д.Ю. УНП 691892908. Т. (8-044) 7803145.*

• **МАНТАЖ, ДЭМАНТАЖ ДАХАЎ, УЦЯПЛЕННЕ ДАМОЎ ПАД КЛЮЧ, АФАРБОЎКА, ВАДАСЦЁЧКА, АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ І ІНШ.** ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• **ПАСЛУГІ САНТЭХНІКА.** Устаноўка душавых кабін, водаправод, каналізацыя, ацяпленне. Выезд на раён. ІП Падгорны Д.В. УНП 691888590. Т. (8-029) 9299085.*

• Рамонт бытавога, гандлёвага і прамысловага халадзільнага абсталявання, чылеры, лёдагенератары. Цеплавое і тэхналагічнае абсталяванне. ІП Валюк С.В. УНП 690326166. Т. МТС (8-029) 7755407, Вэлком (8-044) 7755407.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, кроквенная (стропільная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Стрыжка кошак і сабак у Маладзечне. ІП Пружан С. М. УНН 690369213. Т. (8-044) 4707113.*

• **ТАТУАЖ** ад студыі тату "Карона Арт" .ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044.*

• **УСЁ ДЛЯ ДАХУ І АГАРОДЖЫ. МЕТАЛАПРАКАТ.** Металачарапіца, прафнасціл, труба профільная, вадасцёкавыя сістэмы, камплектуючыя вырабы. **НІЗКІЯ ЦЭНЫ!** ІП Тышкевіч УНП 691178470. Т. (8-033) 6357586, (8-044) 7526450.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• Шынамантажа паслугі, раскатка дыскаў, зварка аргонам, рамонт падвескі. ІП Арол Д.Ф. УНП 691884036. Т. (8-033) 3836130, (8-044) 7841878.*

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖ. ВІДЗАНАЗІРАННЕ.** ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

• Электрамантажныя работы. Якасць і разумныя цэны. ІП Татарчук В.А. УНП 691179053. Т. (8-025) 5414849.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Сетка рабіца ацынкаваная, вышыня 1,2-1,5 м (12 рул.), слупы металічныя (50 шт.). Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7537679.*

• Усё для даху: металачарапіца, прафнасціл, андуліна, гнуткая чарапіца, фальцавая чарапіца, керамапласт, металаштакетнік. Поўная камплектацыя, замер, дастаўка, гарантыя. ПП "Алекс-Дом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя бацькі, 4 тыдні. Т. (8-029) 7046266.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Трактар Т-40АМ, верны сябар добраму гаспадару. Т. (8-029) 6397783.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік "Атлант", 5 гадоў, выдатны стан, 163-63-60 за 1 500 000 руб. Т. (8-0176) 776889. МТС (8-029) 5062512.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГТУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

**Мэбля**

• Канапа і крэсла "Лагуна". Т. (8-029) 6931439.

• Канапа ў выдатным стане, з дастаўкай. Т. (8-044) 7204408.

• Канапа, крэсла-ложак, нядорага. Т. (8-01771) 51496.

• Прыхожая сінега колеру, б/у, у добрым стане, даўжыня 162 см, глыбіня 43 см. Т. (8-029) 6202884.

• Секцыя б/у, мяккі вугал б/у, танна. Т. (8-0176) 750984, Вэлком (8-029) 3561403.*

• Секцыя, нядорага, тэрмінова. Т. (8-029) 5681972, (8-0176) 549122.*

• Трэльяж і частка секцыі, усё у добрым стане, дачны варыянт, 250 000 руб., Маладзечна. Тэрмінова. Т. (8-029) 3633626, 747055.

**Музінструмент**

• Піяніна, мэбля б/у. Маладзечна.Т. (8-029) 2608541.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова чырвона-пярэстая. Ацёл у снежані. Т. Вэлком (8-029) 1517943.

• Кнырок в'етнамскі, 3 месяцы, козлік 6 месяцаў зааненскі, авечкі розных парод. Т. (8-029) 6532888.

• Козы. Вілейка. Т. (8-044) 7886517.

• Кошка, 4 месяцы, шукае клапатлівых гаспадароў (колер – спецыя). Т. Вэлком (8-044) 5733959, МТС (8-029) 2627220.

• Парасяты в'етнамскай травяадной свінні. Паслугі кныра. Т. (8-029) 2508159.

• Парасяты в'етнамскія, 2 разы прышчэпленыя, парода Максі. Т. (8-029) 9714041.*

• Парасяты в'етнамскія, узрост 2 месяцы. Т. (8-029) 8771541.

• Парасяты в'етнамскія, узрост 2,5 месяца. Магчыма дастаўка. Т. (8-029) 8606381.

• Парасяты і свінні. Т. (8-029) 6597228.

• Свінні жывой вагой. Т. (8-029) 8766740.

• Хатняя жыўнасць. Т. Вэлком (8-029) 6297992.

• Шатландская вісловухая кошачка, 2 месяцы. Т. (8-025) 7270405.*

• Шчаняты рызеншнаўцара з радаводам. Прышчэпкі па ўзросце. Т. (8-029) 3371658.*

**Іншае**

• Аўтакрэсла 9-36 кг без рамянёў, 900 000 руб. Вілейка. Т. (8-029) 5753689.

• Бульба буйная з дастаўкай. Т. (8-029) 8766740.

• Бульба буйная і дробная. Сарты "Ласунак", "Лілея".Т. (8-01771) 45597, Вэлком (8-029) 9461249.

• Бульба буйная, 120 000 руб за мяшок, дастаўка. Т. (8-029) 3206886.

• **БУЛЬБА** з дастаўкай на дом. Т. (8-01771) 71662.

• **ВОКНЫ ПЛАСТЫКАВЫЯ**: нямецкі профіль, энергазберагальнае шкло ад вытворцы. ТАА "Окнаград" УНП 690639306. Т. МТС (8-029) 5744744.*

• Дзверы міжпакаёвыя, масіў, у добрым стане, вельмі танна, без каробак, 60х202 2 шт., 80х202 1 шт., 70х202 1 шт. Т. Вэлком (8-029) 3426378.*

• Ёмістасці 1,8 т, 2 бочкі 200 л, каністры 20 л, 30 л. Т. (8-025) 9298699.

• Зруб абразны, 17 см, 6х6, зімовы лес. Т. (8-029) 6028263.

• Кацёл на цвёрдым паліве чыгунны, магчыма дастаўка. Т. (8-044)7204408.

• Комін (дымоход) газавага катла ўцеплены. Т. (8-044) 7204408.

• Плітка тратуарная 30Ч30, 100 м$^2$, бардзюр 200 метраў. Т. (8-025) 6845583.*

• Полкі пад тавар, халадзільнікі пад мяса, рыбу, марожанае. Т. МТС (8-029) 8624263, Вэлком (8-044) 7641403.*

• Прагулачная каляска, 1 год б/у, выдатны стан, 1 000 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977.

• Сена, в. Людвінова Вілейскага р-на. Т. (8-044) 4993631, (8-0176) 779113.

• Шклопакеты, 5 шт., 170х210, нядорага. Т. (8-029) 3103201.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Бульбакапалка да трактара Т-25, Івянец Валожынскага р-на. Т. (8-044) 7192064.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 6434740.*

**Жывёлу**

• Карову, каня, цялушку. Т. (8-029) 8201331.*

• Карову, каня. Т. (8-029) 7977326.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРНЫЯ РЭЧЫ:** мэбля, самавар, фарфор, гадзіннікі, статуэткі, іконы, манеты, фотаапараты і іншае. Т. МТС (8-029) 5744744.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Апарат дайльны. Т. (8-029) 2725536.

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 6319537.

• Кнігу "Памяць" Мядзельскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мінскага, Лагойскага раёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Монакуляр, бінокль маркі. Т. (8-029) 5019550.*

*Аддаём бясплатна невычарпальную крыніцу цяпла і любові*

**Трохмесячны чарныш**
*з якаснымі генамі*

*Есць усё, у латок і на вуліцу ходзіць, мышэй лавіць вучыцца. Глісты прагнаныя. Ласкавы, гуллівы, разумны коцік.*
**Тэл. (8-029) 651-20-36.**

### ІНШАЕ

• **АЙКІДО. ШКОЛА АЙКІДО АБ'ЯЎЛЯЕ АБ НАБОРЫ НА 2015-2016 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД ДЗЯЦЕЙ І ПАДЛЕТКАЎ 2000-2010 г. н. ЗАНЯТКІ ПРАВОДЗЯЦЦА Ў ГІМНАЗІІ №10 І СШ №14. http://aikimolo.ucoz/ru vk.com/club57627625** ІП Валаскові ч А.С. УНП 600345589 Т. **(8-029) 7535260, (8-029) 6375326.***

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Брыгада будаўнікоў выканае мантаж, дэмантаж любой складанасці, бетонные, дахавыя, аддзелачныя і інш. віды будаўнічых работ. ІП Неваровіч Ю.П. УНП 691892829. Т. (8-029) 5671404.

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Майстар-аддзелачнік зробіць кваліфікаваны еўрарамонт (ад дробнага да пад ключ). Т. (8-044) 5724916.*

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Пенсіянеру патрабуецца памочніца па перапрацоўцы ягад чарнаплоднай рабіны, каліны, шыпшыны і іншых дароў прыроды на садовым участку ў Татаршчызне. Т. Вэлком 3960372.

• Піларамшчык на стужкавы станок у Вілейскім раёне. Т. (8-029) 8777563.*

ЗДАРЭННІ

# На Вілейшчыне знайшлі пяцьдзесят кілаграмаў канапель

ВІЛЕЙКА

**Участковы інспектар міліцыі ў двары лецішча ў вёсцы Дварэц знайшоў 20 кустоў канапель агульнай вагой 50 кілаграмаў.**

Лецішча належыць 40-гадовай жыхарцы Мінска. Патлумачыла гаспадыня, што канопл засталіся расці на двары пасля смерці бацькі. А яна ў сваю чаргу не прыняла належных мер па іх знішчэнні.

У дачыненні да жанчыны склалі адміністрацыйны пратакол па артыкуле "Пасеў або вырошчванне забароненых да апрацоўкі раслін і грыбоў, якія змяшчаюць наркатычныя сродкі або псіхатропныя рэчывы".

Гэтыя дзеянні цягнуць накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь (да трох мільёнаў 600 тысяч рублёў).

Сітуацыю пракаментаваў старшы оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі Вілейскага РАУС **Юры Высоцкі**.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫШУК

# Шукаюць мужчыну, які не вярнуўся з лячэбна-працоўнага прафілакторыя

ВІЛЕЙКА

**Вілейскі РАУС устанаўлівае месцазнаходжанне зніклага Віталя Якутовіча. Яму 45 год, ураджэнец горада Пружаны Брэсцкай вобласці.**



Жыве ў Вілейцы па вуліцы Яснай.

Мужчына 31 жніўня вызваліўся з лячэбна-працоўнага прафілакторыя Навагрудка і да месца пастаяннага пражывання не вярнуўся.

**Яго прыкметы**: на выгляд 45-50 гадоў, рост 165 см, хударлявага целаскладу, валасы цёмныя, кучаравыя, насіў вусы і бараду.

**Асаблівыя прыкметы**: нос дэфармаваны, кульгае, пакутуе на алкагольную эпілепсію.

Калі вам што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне Віталя Якутовіча, паведаміце па тэлефонах: 8-029-**5076686**, 8-033-**3143042** або **102**.

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

● УСПАМІНЫ

# Паход па Атлантыцы, які прывёў да медаля

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 34,35, 36.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Свой бартавы журнал ён распачаў у красавіку 1970 года ў порце Балтыйск. Пра паход на борце танкера "Алекма" піша маладзечанец Леанід Посахаў.**



Фота забяспечана Леанідам ПОСАХАВЫМ.

Падчас высадкі ў Польшчы. Леанід Посахаў пасярэдзіне. 1970 год.

## Успаміны пра Маладзечна

Удалечыні ад дома, ад Маладзечна, я часта ўспамінаю менавіта Балтыйск, такі родны і блізкі. А ў Маладзечне я нарадзіўся і вырас, вучыўся і працаваў. У гэтым горадзе ў мяне шмат сяброў, таварышаў, і ён мне вельмі дарагі. Дзе б я ні быў і як бы далёка, я заўсёды ўспамінаю Маладзечна, гады ціхамірнага і вясёлага дзяцінства, шчаслівыя гады юнацтва. Хоць і цяпер я не стары, мне ўсяго 23 гады.

І вось да Балтыйска засталося паўтара сутак ходу і дзевяць гадзін язды да Маладзечна. Эх, хутчэй бы дадому! Каб пабачыць маці, сястрычку, родных, знаёмых. Пажыць, пагуляць хоць 10 сутак, але ў Маладзечне.

## Прыпынак у Польшчы

Ідзём па пралівах Вялікі Бельт і Малы Бельт, яны належаць Даніі. Пралівы вузкія, усюды ўтыканыя мігаючымі буямі. Затым вырываемся на прастор Балтыкі. Мы ўжо ў сваім родным моры, але ў нейтральных водах. У аддаленні праходзім ФРГ, трохі бліжэй ГДР, у бінокль нават бачны горад Расток.

Уваходзім у тэрытарыяльныя воды Польшчы. Нам далі дабро на заход у горад Свінауйсьце. Усю ноч стаім на рэйдзе і толькі раніцай заходзім у канал. Больш правільна, не канал, а раку Свіна, адсюль і назва паселішча – Свінауйсьце. Ідзём праз увесь горад да паліўнага прычала. Рака дзеліць горад на дзве часткі, звязваюць іх два невялікія паромы, на якіх мне ўжо даводзілася пераправіцца. У Свінауйсьці можна сустрэць караблі і судны пад сцягамі мноства краін, ад амерыканцаў да немцаў. Аднойчы я ўжо бачыў зорна-паласаты амерыканскі сцяг.

Я ў гэтым горадзе не ўпершыню, быў недзе разоў 10. Яшчэ калі працаваў на буксіры, то мы даволі часта хадзілі сюды, асабліва ў Гданьск, да якога ўсяго чатыры гадзіны ходу.

У Свінауйсьці мы затрымаліся – фарбавалі судна. Наша "Алекма" пасвятлела, пахарашэла. Ствараецца ўражанне, што мы вяртаемся не з паходу, а з рамонту, з завода, дзе толькі спушчаны на ваду танкер, які зіхаціць і пахне фарбамі.

Мы стаім у вусці ракі Свін. Уверх па цячэнні знаходзіцца горад Шчэцін. Паўз нас праходзіць шмат суднаў краін Скандынавіі. Усе сцягі гэтых краін маюць крыж, толькі крыжы і колеры розныя.

Ходзім у горад, у спецыялізаваны магазін для маракоў "Балтан". У Польшчы нявыгадна затаварвацца, бо ўсё дарагое. Я хацеў толькі купіць для маці абрус з кутасікамі.

Аднойчы пайшлі ў невялікі лясок, дзе ўбачылі дом, разбіты, пэўна, з вайны. На яго яшчэ моцных сценах бачныя ўсемагчымыя надпісы і на рускай, і на польскай, і на нямецкай мовах.

## Вось мы і дома

У 11 гадзін 8 мая мы зайшлі ў вароты Балтыйскага канала. Здаецца, што толькі ўчора мы пайшлі, а вось сёння вяртаемся. Цёпла і ярка свеціць сонца. Перадсвяточны дзень. На суднах іграе музыка. Мы падыходзім да свайго прычала.

Нас сустракае высокае начальства. Капітан 1-га рангу, капітан 2-га рангу, родныя і блізкія. Толькі мяне ніхто не сустракае. Генка Яскевіч яшчэ працуе і не ведае аб маім вяртанні.

У 12:30, пасля агляду мытнікам парахода, я ўпершыню ступаю на зямлю Балтыйска пасля месячнага плавання. Падчас абеду да нас прама ў сталовую заходзіць у суправаджэнні афіцэраў капітан судна, начальнік дапаможнага флоту капітан 1-га рангу таварыш **Маскалец**. Абед у нас і так смачны, а ён яшчэ падносіць нам "пірагі ды пышкі".

Паведамляе прыемныя навіны: загадам галоўнакамандуючага флоту ўсе ўдзельнікі вучэння "Акіян" за высокае баявое майстэрства, за выдатную вывучку ўзнагароджваюцца жэтонамі за "Далёкі паход" і медалямі "За працоўную доблесць". Вось дык навіна! І гэта яшчэ не ўсё. Ад сябе Маскалец дадае і загадвае пампаліту персанальна кожнаму члену экіпажа запісаць удзячнасць ад яго імя. Наша праца і бяссонныя ночы не прайшлі дарма. Параход узнагародзілі пераходным вымпелам ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння Леніна. А экіпаж судна абʼявілі камуністычным.

Вось так закончыўся наш паход. Абед таксама, і ўсе спяшаюцца ў горад, каб убачыць сваіх знаёмых. Я іду да свайго сябра Генкі.

**Леанід ПОСАХАЎ, Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

### 11 ВЕРАСНЯ

**150 гадоў** (1865) з дня нараджэння Яніса Райніса (сапр. Плiекшанс), латышскі грамадскі дзеяч, паэт, драматург, перакладчык. Абараняў інтарэсы беларусаў Латвіі, спрыяў беларускай адукацыі і культуры. Памёр 12 верасня 1929 года.

### 12 ВЕРАСНЯ

**70 гадоў** назад (1945) у вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна нарадзіўся Рыгор Семашкевіч, паэт, літаратуразнаўца, крытык, празаік, паэт. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Член Саюза пісьменнікаў СССР. Памёр 11 чэрвеня 1982 года.

### 14 ВЕРАСНЯ

**95 гадоў** з часу адкрыцця (1920) у Мінску Беларускага дзяржаўнага тэатра. Цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

### 16 ВЕРАСНЯ

**145 гадоў** назад (1870) нарадзіўся Язэп Васілевіч (мястэчка Крывічы, цяпер Мядзельскі раён), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, археолаг, педагог. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, Маскоўскім археалагічным інстытуце, Маскоўскім юрыдычным інстытуце. У 1917 годзе стаў адным з лідараў Беларускай народнай грамады. Адзін са стваральнікаў і ў 1917–1919 гадах дырэктар Будслаўскай беларускай гімназіі. У ліпені 1918-га ён як прадстаўнік акупіраванай Германіяй тэрыторыі дэлегат Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі ў Маскве. У 1919–1920 гадах жыў у Маскве. У чэрвені 1920-га назначаны загадчыкам інфармацыйнага аддзела ўпраўлення рэўкомаў Заходняга фронту. У жніўні 1920 вярнуўся ў Будслаў, да кастрычніка быў дырэктарам школы. З 1921 г. выкладчык гісторыі і дырэктар Мінскага педагагічнага тэхнікума (МБПТ). Аднachасова выкладаў у БДУ археалогію. У 1924 годзе перасяліўся ў Віцебск і стаў дырэктарам культурна-гістарычнага музея. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і скліканні Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Арыштаваны ДПУ БССР 1.8.1930 г. па справе Саюза вызвалення Беларусі. У 1931-м высланы ва Уфу (Башкірыя), дзе і памёр. Рэабілітаваны.

### 17 ВЕРАСНЯ

**1912 год**. Нарадзіўся Максім Танк (в. Пількаўшчына, цяпер Мядзельскі раён), паэт, грамадскі дзеяч, акадэмік.

**75 гадоў** назад (1940) у Вілейцы ўведзеная ў эксплуатацыю першая чарга будынка гарадской бальніцы па Піянерскай.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

● УСПАМІНЫ

## Як забраць рэчы продкаў, што ваявалі ў арміі Андэрса

*Працяг. Пачатак у №№15, 22.*

Рэчы многіх жаўнераў арміі Андэрса месцяцца ў Цэнтральным вайсковым архіве ў Варшаве. Нашчадкі могуць забраць памятныя рэчы, калі пацвердзяць сваяцтва.

Маладзечанец **Віктар Голуб** падрыхтаваў спіс тых, хто паходзіў з нашага краю са спадзяваннем, што хтосьці з нашчадкаў захоча вярнуць дарагія сям'і рэчы.

Англійскі ўрад перадаў асабістыя рэчы загінулых у вайсковы архіў у Варшаве.

Архіў месціцца ў раёне Стары Рэмбратаў, па адрасе: ul. Czerwonych Beretów bl. 124, 00-910 WARSZAWA, Centralne Archiwum Wojskowe. Адказны па гэтай тэме – Ежы Сівіцкі. Там можна знайсці поўны спіс, паводле якога зрабіў выбарку Віктар Голуб – Lista nazwich żołnierzy i oficerow, ktorych depozyty sa przechowywane w CAW.

Пры звароце трэба мець даведку аб ступені сваяцтва з жаўнерам, якую заверыў натарыус і перакладзеная на польскую мову.

139. Рынкевіч Юзаф, стралец, 2 узнагароды, Свір, в. Шчарбішкі.
140. Сайкоўскі (Зайкоўскі) Мікалай, 1914 г.н., 2 узнагароды, Браслаў.
141. Саковіч Францішак, 1919 г.н., стралец, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Цымуты.
142. Саўчыц Тэадор, 1910 г.н., сапёр, 1 узнагарода, Вілейка.
143. Сіханкевіч (Зіханкевіч) Аляксандр Іахімавіч, 1912 г.н., старшы стралец, 1 узнагарода, Паставы, в. Гліншчызна.
144. Сямашка Еразм Баляслававіч, 1913 г.н., стралец, Паставы, в. Рэчкаўшчызна.
145. Сяўрук Эдвард Станіслававіч, 1917 г.н., стралец, 1 узнагарода, Валожын, в. Навінкаўшчызна.
146. Сівіцкі Зыгмунд Раймундавіч, 1911 г.н., капрал, 2 узнагароды, Вілейка.
147. Скайво Станіслаў, 1904 г.н., капрал, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Прабоцішкі.
148. Скурновіч Ёзаф Вінцэнтавіч, 1903 г.н., стралец, Ашмяны, в. Доргішкі.
149. Смалонскі Пётр Віктаравіч, 1925 г.н., стралец, Маладзечна, в. Сычавічы.
150. Сарока Міхаіл Аляксандравіч, 1923 г.н., старшы стралец, Вілейка.
151. Станкевіч Ёзаф, 1910 г.н., капрал, 1 узнагарода, Валожын.
152. Стасіловіч Вацлаў, 1919 г.н., стралец, 1 узнагарода, Валожын, в. Лытош.
153. Стальмачонак Іван 1917 г.н., артылерыст, 1 узнагарода, в. Слабодка.
154. Сцерыновіч Мечыслаў, 1906 г.н., сяржант, 1 узнагарода, Браслаў, в. Белуцішкі.
155. Супрановіч Пётр, 1901 г.н., старшы стралец, 1 узнагарода, Вілейка, в. Рабунь.
156. Суровіч Францішак Іванавіч, 1908 г.н., стралец, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Кавалі.
157. Шаюк Аляксандр Пятровіч, 1913 г.н., старшы стралец, 1 узнагарода, Вілейка, в. Шваяды.
158. Шакель Уладзіслаў, 1907 г.н., стралец, 1 узнагарода, Браслаў, в. Заблоцішкі.
159. Шалкоўскі Іван, 1916 г.н., стралец, 1 узнагарода, Свір, в. Стары Млын.
160. Шапель Браніслаў, 1909 г.н., Ашмяны.
161. Шкель Іван, 1912 г.н., стралец, 2 узнагароды, Вілейка, в. Ляскоўка.
162. Шокель Іван Якубавіч, 1912 г.н., стралец, Браслаў, в. Пястуны.
163. Шыдлоўкі Фелікс Юльянавіч, 1912 г.н., артылерыст, Валожын, в. Вішнева.
164. Тарлецкі Вацлаў, 1900 г.н., Браслаў.
165. Тамашэвіч Іван Іванавіч, 1910 г.н., стралец, Ашмяны, в. Карэнды.

**Заканчэнне будзе.**

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**







Краязнаўца Мікалай Тамашэвіч каля дуба ў сваім двары ў Маркаве, які, на думку гаспадара, вылечыў яму спіну.

# Чаму Маркава – калыска Маладзечаншчыны

## Краязнаўца: тут перадавалі ў нявесты сястру Івана Грознага, а калодзежная вада не награвалася на сонцы некалькі дзён

МАЛАДЗЕЧНА

**Мястэчка Маркава справіла сваё 600-годдзе. Камень з памятным знакам у гонар гэтай даты заклалі на мінулым тыдні, а ў суботу сюды з’ехаліся аграрыі з усяго раёна, каб адзначыць таксама і раённыя “Дажынкі”.**

На памятным знаку адзначылі і 155-годдзе царквы, а сам камень упрыгожылі выявай абраза Святой Жывапачынальнай Тройцы. Гэты абраз месціцца на браме царквы. Аднак гісторыя Маркава мае нашмат больш глыбокія карані і пачынаецца з таго часу, калі сюды прыйшлі першыя пасяленцы па меры адступлення ледавіка.

Экскурсію па гэтым знакавым у гісторыі рэгіёна месцы правёў краязнаўца і даследчык гісторыі роду Агінскіх **Мікалай Тамашэўскі**.

### Час, пра які памятаюць толькі камяні

Маркава дзеліць скрыжаванне дзвюх дарог. Адна з іх ідзе ў бок вёскі Трапалава. Там і было адно з першых пасяленняў людзей на тэрыторыі Маладзечанскага раёна. Гарадзішча ў Трапалаве цалкам ці амаль цалкам разбуранае. У самім Маркаве былі старадаўнія могілкі, якія месціліся на паўднёвай ускраіне паселішча, злева ад дарогі ў бок Трапалава. Цяпер цалкам знішчаныя. А само гарадзішча ў Трапалаве вышынёй каля 15 метраў, на паўночны ўсход ад вёскі. Значную частку разбурыў кар’ер.

Пасля адступлення ледавіка тут аселі першыя пасяленцы. Адсюль пачынаецца Ашмянская града ўзвышшаў.

Чаму ж каля Маркава аселі людзі? Рэчка, якая прыцягнула да сябе племя, завецца Гадзея, гэта левы прыток Ушы, якая пасля ўпадае ў Вілію. Звярніце ўвагу на тапаніміку: Маладзечна, вёска Гарадзечна, рака Гадзея. Годная, прыгодная для ўжывання і жыцця рака. Назвы, верагодна, давалі прадстаўнікі аднаго і таго ж племені.

– Гэтыя людзі былі язычнікамі, – дадае наш экскурсавод. – І ў паўтара кіламетрах ад Маркава ў бок Трапалава ў лесе ёсць ахвярны камень з адмысловай адтулінай. Каго прыносілі ў ахвяру і пра што маліліся тыя пасяленцы, цяпер можна толькі здагадвацца.

### Час княства, час шлюбаў і вайны

Першая згадка пра Маркава датуецца 1415 годам.

– Калі разважаць пра гэты час, то варта ўлічваць: на пяць год раней мы перамаглі ў Грунвальдскай бітве, – разважае Мікалай Тамашэўскі. – Тут яшчэ гаспадараць Ягелоны. Нядаўна заключылі Крэўскую ўнію, а Крэва – побач.

У 1495 годзе дачка **Івана III**, яна ж сястра **Івана Грознага Алена**, выходзіць замуж за караля польскага і вялікага князя літоўскага **Аляксандра**. Менавіта ў Маркаве адбылася перадача нявесты. У ёй удзельнічалі гетман **Канстанцін Астрожскі**, князі **Іван** і **Васіль Глінскія**.

Цяпер у Маркаве расце дуб, які якраз Алена, будучая жонка Аляксандра, і пасадзіла. Пра гэта для “РГ” раней пісаў таксама **Міхась Міхалевіч**. Нядаўна дрэва ўпрыгожылі жоўтым ланцугом і выявай ката.

### Без Маркава не было б паланэза Агінскага

У 1723 годзе староста маркаўскі **Коцел** выдае дачку Разалію замуж за **Казіміра Ігнацыя Агінскага**. У шлюбе ў іх дзяцей не было, і ў 1738 годзе Казімір Ігнацій перадае землі брату **Тадэвушу Агінскаму**.

У 1740 годзе кашталян полацкі **Пац** уступае частку зямель **Марцыяну Міхалу Агінскаму**. Ад гэтага часу род Агінскіх, уключаючы **Міхала Клеафаса**, валодае землямі ад Лебедзева да Гарадка і ад Краснага да ракі Віліі. Атрымаўшы тытул графа, Агінскі стварыў так званае Маладзечанскае графства, якім род валодаў каля 110 год.

– Фактычна яны стварылі сённяшні Маладзечанскі раён, – гаворыць даследчык роду. – Не было б перадачы зямель, хто ведае, ці пачулі б мы паланэз, напісаны ў Залессі, непадалёк ад Маркава.

### Прахадны шлях для войскаў

Праз Маркава якія толькі войскі не праходзілі за гісторыю Беларусі! Таму і складана было развівацца ў месцы, дзе ледзь не кожнае пакаленне збіраюць у салдаты, а тых, хто застаўся, рабуюць ваенныя паборы. Масковія ішла на Крэва, Вільню і Балтыку, а шведы і французы ішлі на Маскоўю. Праз Маркава праходзілі войскі і Карла XII, і Напалеона.

Аказваецца, менавіта каля Маркава адбылося першае братанне рускіх і нямецкіх салдат у маі 1917 годзе. Пра гэта сведчаць кадры кінахронікі.

– Братанні, якія пачаліся ў Маркаве, сталі адным са складнікаў заканчэння вайны, – падкрэслівае Тамашэўскі. – Салдаты стаміліся ваяваць, кіраваліся лозунгам “Штыкі ў зямлю, далой вайну”.

### Блакітныя камяні

Калі Маркава перайшло Польшчы пасля Рыжскага дагавора 1921 года, мясцовы пан запусціў шклогуту. Краязнаўца не змог адшукаць яго імя, але даведаўся, што на гуце выдзімаліі аптэкарскі посуд: маленечкія бутэлечкі на 50, 100, 150 мілілітраў. Некалькі такіх Мікалай знайшоў у двары свайго дома. На адной з бутэлечак ёсць кляймо. Зямля каля месца, дзе лілі шкло, яшчэ некалькі год таму была ўсеяная блакітнымі камянямі. Адзін з іх даследавалі ў лабараторыі. Аказалася, што блакітнае пакрыццё – гэта адходы шкляной вытворчасці.

Адным з паноў у Маркаве быў пан **Страшынскі**. Захаваўся былы панскі дом. Насупраць – прыгожы від на запруду. А на беразе стаяў млын. Калі яго разбурылі, цяжка сказаць, але ў кнізе **Сергачова** “Беларускае народнае дойлідства” ёсць старое фота, дзе млын добра відаць. Пазней на гэтым месцы размясцілі адну з шасці ў краіне льносемстанцый, а пасля сортсемучастак.

### Вада не награвалася некалькі дзён

Непадалёк ад запруды падчас Другой сусветнай засеў танк. Яго ніяк не змаглі выцягнуць і разрэзалі на часткі. Ходзяць чуткі, што непадалёку ад гэтага месца праз раку перапраўлялі вялікі медны звон і ўпусцілі яго. Так і цяпер ляжыць.

На рагу Садовай быў калодзеж глыбінёй больш за 20 метраў, пабудаваны маналітным спосабам. Цяпер яго засыпалі. Сябар Мікалая Тамашэвіча **Міхаіл Стрыга**, двойчы кавалер ордэна Працоўнай Славы, у савецкі час працаваў вадавозам. Вазіў ваду з калодзежа на сенажаць. Вада стаяла ў полі два дні такая халодная, што аж дух займала, але адразу наталяла смагу і здымала стому.

У Мікалая Тамашэвіча ў Маркаве дом. А ў двары расце дуб, якому больш за 350 год. Акружнасць ствала каля трох метраў, а вышыня большая за 30. Мікалай Тамашэўскі кажа, што ведае, як дрэвы лечаць, і сам карыстаецца сілай старажытнага дуба. Сабе дзякуючы дубу ён вылечыў спіну.



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Цэглу робяць 9 дзён, будынкі з яе стаяць стагоддзі

МАЛАДЗЕЧНА

**– Цэгла – каралева будаўнічых матэрыялаў, – сцвярджае дырэктар Радашкавіцкай цагельні Алег Мішчанка. – Нездарма ж нават помнікі архітэктуры старажытнасці, якія дажылі да нашых дзён, пабудаваныя менавіта з цэглы.**

Цэгла дазваляе ўвасабляць у жыццё самыя разнастайныя архітэктурныя задумы, а Радашкавіцкая цагельня садзейнічае гэтаму ад 1984 года.

## Навінка завода – цёплая кераміка

Сёння гэта прадпрыемства, на якім працуюць 248 чалавек, 21% з іх – маладыя спецыялісты. Аб'ём вытворчасці – 67 мільёнаў цаглінак у год. Вытворчасць цалкам аўтаматызаваная.

**Сярэдні заробак на заводзе складае 7 мільёнаў 450 тысяч рублёў.**

Пасля нам пакажуць, як працуе завод, спачатку ж на ўсе пытанні, якія цікавілі "Рэгіянальную газету", адказаў дырэктар прадпрыемства.

Працуе Алег Мішчанка на пасадзе дырэктара сёмы год. За час яго кіравання завод цалкам перайшоў на аўтаматызаваны рэжым.

– Раней тым, хто працаваў у цэху ўпакоўкі, даводзілася па дзевяць разоў абыходзіць паддон з цэглай, каб запакаваць яе ў плёнку. Цяпер гэта робяць машыны.

30% радашкавіцкай цэглы ідзе на экспарт.

На пытанне наконт навінак, Алег Сяргеевіч смяецца: "Ну якія навінкі ў нашай справе? Цэглу пакуль не робяць ні зялёнай, ні круглай".

Але ўсё ж нават цэглу спрабуюць удасканаліць. Нядаўна запусцілі выпуск цёплай керамікі. Такія блокі больш дарагія, але ў выніку затраты акупляюцца. Пакуль іх выбіраюць для элітнай забудовы, 80% ідзе на экспарт. Адны з апошніх аб'ектаў, якія будаваліся з радашкавіцкай цеплакерамікі – элітныя жылыя комплексы "Вівальдзі" і "Маяк Мінска" ў Мінску.

## Зрабіць цэглу – быццам спячы пірог

Сыравіну для завода здабываюць за 15 кіламетраў ад завода, непадалёк ад вёскі Гайдукоўка.

Ад таго моманту, калі гліна трапляе на прадпрыемства, да таго, як стане цэглай, праходзіць дзевяць дзён.

– Вырабляць цэглу, – кажа Алег Мішчанка, – гэта як пячы пірагі.

Спачатку робіцца "цеста", якое на цаглянай вытворчасці называюць шыхта, яна па канвееры паступае ў спецыяльную машыну, якая фармуе цагляныя блокі. Наступная машына рэжа блокі на асобныя цаглінкі. Яны накіроўваюцца ў цэх садкі – туды, дзе цэглу садзяць на спецыяльныя паддоны, каб яна прасохла.

Потым абпальваюць пры тэмпературы 1050 градусаў. Далей ідзе ўпакоўка і адгрузка на склады.

– Цэгла на складах у нас не залежваецца. Уся знаходзіць свайго пакупніка. Адзінае, што цяпер цяжкасці са спаганнем даўгоў з нашых пакупнікоў.

У бліжэйшых планах цагельні адкрыць цэх па вытворчасці цэглы для аддзелкі фасадаў.

## Сімвал газеты – карова!

Пазнаёміцца бліжэй з калектывам завода мы змаглі пасля экскурсіі па заводзе.

"Рэгіянальная газета" зладзіла адмысловую сустрэчу з калектывам завода, з нашымі цяперашнімі і будучымі падпісчыкамі. Кожны атрымаў у падарунак новы нумар газеты.

Рэдактар газеты **Аляксандр Манцэвіч** расказаў пра гісторыю газеты. Пасля афіцыйнай часткі для ўсіх прысутных зайграў беларускі гурт "Гутатэлі".

А аддзел інфармацыі правёў віктарыну.

Адным з пытанняў было: "Якая жывёліна з'яўляецца сімвалам газеты?" Убачыўшы, што на першай старонцы мінулага нумара газеты фота каровы, у зале ўпэўнена адказалі: "Карова!"

А вы ведаеце, хто сімвал "РГ"?

**Наталля ТУР,**
**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота Настассі РОЎДЫ.**


У цэху фармоўкі Радашкавіцкай цагельні.


Падчас сустрэчы з рэдакцыяй "РГ".


Гурт "Гутатэлі".


Дырэктар Радашкавіцкай цагельні Алег Мішчанка.


Аператар участка фармоўкі Юры Рабушка.



**У наступным нумары:**

Каб зрабіць сваё жытло больш утульным, кожная сям'я сутыкаецца з рамонтам. З чаго яго найлепш пачаць, парады спецыялістаў, навінкі ў сферы рамонту. А таксама рэклама, якая дапаможа знайсці і набыць усё неабходнае.


З такіх блокаў пасля атрымоўваюцца цагліны.



Адной з цяжкасцяў, з якімі сутыкнуліся турысты ў дарозе, было пераадоленне зыбучых пяскоў.



Дзмітры Гоцін (злева), Юры Самсановіч і Сяргей Бялкоў кожны год прымаюць удзел у абрадзе піцця кавы ў ранішняй азёрнай вадзе.



Падчас рэканструкцыі падзей Першай сусветнай вайны па палях гулялі такія сялянкі.

# 384 кіламетры па Беларусі за 9 дзён

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра турыстычны паход расказала "Рэгіянальнай газеце" велатурыстка Ганна Шыманская. Яна вандруе з 14 год.**

– Дарога не надакучвае ніколі. Таму што гэта кожны раз новыя маршруты, новыя сустрэчы, новыя прыгоды, – кажа Ганна.

Сёлета 15 жніўня ў велавандроўку накіраваліся 15 удзельнікаў. Самаму малодшаму з іх было 10 гадоў, самаму старэйшаму – 69.

– Кіраўнік нашага велападарожжа і па сумяшчальніцтве кіраўнік турклуба "Пілігрым" **Сяргей Бялкоў** так складае маршрут, што ён лёгка даецца малым і сталым, падрыхтаваным турыстам і навічкам.

За дзевяць дзён вандроўкі турысты наведалі Смаргонь, Жодзішкі, Вішнева, Паставы, Мядзел, Нарач.

– Кожнае месца, у якім нам давялося пабыць, пакінула столькі ўражанняў, што іх хопіць да наступнага лета.

Па-першае, удзельнікі велапаходу штодзень купаліся ў трох розных вадаёмах.

– Надвор'е нам спрыяла, за ўсе дзевяць дзён не выпала ні адной кроплі дажджу.

А па-другое, Сяргей Бялкоў прадумаў экскурсійную праграму на кожны прыпынак, дзе давялося спыняцца турыстам.

– Мы наведвалі музей рэтра-аўтамабіляў у Заброддзі, паглядзелі на рэканструкцыю ваенных падзей каля вёскі Пасынкі, што на Мядзельшчыне, завіталі да ганчара, які напаіў нас гарбатай з сапраўднага самавара, які раскачагарваецца ботам, паслухалі цудоўную экскурсію пра школу і сядзібу ў Камарове на Мядзельшчыне.

Але падчас паходу ёсць рэчы, якія застаюцца нязменнымі.

І гаворка зусім не пра праколы колаў, якія ў любым велапаходзе здараюцца.

– Ва ўдзельнікаў нашага паходу ёсць традыцыя. За час вандроўкі абавязкова сустрэць світанак у вадзе з кубкам гарачай кавы. Уявіце: раніцай паветра каля 10 градусаў, а вада ў вадаёме – 20 градусаў. Купаешся быццам у малацэ. Дзеля такіх момантаў і варта выбірацца ў падарожжы. Паверце, уражанні ад іх не забываюцца.

Наталля ТУР.
Фота Ганны ШЫМАНСКАЙ.

● НАВІНЫ

## "Што там быў пенальці, было відаць нават з верталёта"

СМАРГОНЬ

Гэтак ацаніў момант на пятай дабаўленай хвіліне матча з ФК "Орша" галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк**.

Матч адбыўся ў Оршы 6 верасня і завяршыўся ўнічыю 1:1. Прычым ад 17-й хвіліны смаргонцы гулялі ў меншасці – выдалілі іх варатара **Радзівона Жука**.

Смаргонцы першымі прапусцілі гол і адыграліся на 59-й хвіліне: вызначыўся **Сяргей Крот**.

– Вядома, мы незадаволеныя вынікам, нам патрэбная была толькі перамога, – прыводзіць словы Мікалая Рындзюка афіцыйны сайт клуба. – У матчы супраць "Оршы" спадар **Васілевіч** (галоўны арбітр матча – "РГ") нахабна забраў у каманды перамогу, калі не прызначыў стопрацэнтны пенальці ў вароты саперніка на 95-й хвіліне.

"Смаргонь" ідзе на пятым месцы.

## Юныя смаргонцы згуляюць у першынстве Беларусі

СМАРГОНЬ

Дзве каманды ФК "Смаргонь" прымуць удзел у юнацкім першынстве Беларусі па футболе 2015-16 гадоў сярод камандаў першай лігі. Складзеныя яны з гульцоў 1998-1999 і 2000-2001 гадоў нараджэння.

Абедзве каманды патрапілі ў групу "А". Сапернікамі будуць каманды з Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**.

## "Ашмяны" прайгралі 0:2

АШМЯНЫ

У чэмпіянаце другой лігі футбольны клуб "Ашмяны" 5 верасня ў гасцях гуляў з "Агракамбінатам "Ждановічы". "Ашмяны" прайгралі 0:2, прапусцілі па голе ў кожным тайме.

За два туры да заканчэння спаборніцтваў у групе "А" "Ашмяны" займаюць трэцяе месца. У фінальную частку чэмпіянату выйдуць па чатыры лепшыя каманды з дзвюх груп.

## Два галы Лавора прынеслі перамогу "ДЮСШ-4"

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У чэмпіянаце Мінскай вобласці 6 верасня адбылася большасць матчаў 18 тура. Усе каманды з нашага рэгіёна згулялі ў гасцях, але з розным вынікам.

"Вілія" у гасцях сустракалася з "Лівадзіяй-Юні" з Дзяржынска. Хоць віляйчане забілі шмат для сябе – тры галы, але гэта не дапамагло набраць ачкоў. "Вілія" саступіла 3:4.

Аднак віляйчане паказалі зайздросную волю да перамогі.

– Прайгравалі 0:3 і адыграліся. На 82-й хвіліне была ўжо нічыя 3:3 ды ініцыятывай завалодалі, – расказвае прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Але праз лічаныя хвіліны пашчасціла "Лівадзіі-Юні": ад нагі нашага абаронцы мяч уляцеў у вароты віляйчан. Часу адыграцца ўжо не хапіла.

У віляйчан галы забілі **Аляксандр Грыхуцік**, **Віктар Сяліцкі**, **Арцём Ермакоў**.

У іншых матчах "Забудова-Буд" з Чысці абыграла аўтсайдара ФК "Нясвіж" 3:1,

"ДЮСШ-4" з Маладзечна перамагла ФК "Капыль" 2:1.

Два галы ў маладзечанцаў на рахунку **Сяргея Лавора**. Ён узняўся на трэцяе месца ў спісе бамбардзіраў чэмпіянату.

Пасля гэтага тура "ДЮСШ-4" займае другое месца. Каманда наблізілася да лідара – "Коласа": падзяляе іх чатыры ачкі. "Забудова-Буд" па набраных ачках дагнала "Вілію". Але віляйчане пакуль на сёмым месцы, каманда з Чысці – на восьмым.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Уладзімір Макоўскі можа прывезці ў Маладзечна вышэйшую лігу

МАЛАДЗЕЧНА

Клуб "Іслач" ідзе зараз на першым месцы ў першай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе. Трэнер "Іслачы", ураджэнец Маладзечна **Уладзімір Макоўскі** распавёў:

– Некаторыя там пішуць, што зараз у "Іслачы" пойдуць "злівы" матчаў. Магу запэўніць, што нам вышэйшая ліга патрэбная. Мы будзем імкнуцца да яе. А атрымаецца ці не – мы будзем глядзець у лістападзе.

Матчы ў Маладзечне? Рашэнне будзе прымаць ўжо кіраўніцтва, калі выйдзем у вышэйшую лігу. Як варыянт, праводзіць матчы ў Маладзечне. Вельмі ўтульны горад", – сказаў Макоўскі ў эфіры праграмы "Час футбола" на "Беларусь-5".

Паводле by.tribuna.com.

АНОНСЫ

# У Маладзечне адбудуцца рыцарскія баі

МАЛАДЗЕЧНА

**Рыцарска-ваярскі клуб “Воіны ВКЛ” запрашае на прэзентацыю свайго клуба ў дзіцячы цэнтр культуры “Расток” у суботу, 12 верасня.**

Кіраўнік клуба **Аляксандр Шоць** расказаў, што ўсе ахвотныя могуць паглядзець выступленне шатландскіх пяхотнікаў, татараў.

– Наш клуб адрозніваецца ад іншых тым, што запрашаем не толькі паглядзець, як валодаем сярэднявечнай зброяй мы. Пасля паказальных выступленняў кожны зможа сам прымераць рыцарскія даспехі, паспрабаваць свае сілы ў валоданні мячом.

Аляксандр Шоць падкрэсліў, што ў іх клубе будзе цікава ўсім.

– Да мяне на мінулых фестывалях падыходзілі дзяўчаты, пыталіся, чаму такая несправядлівасць. Усё для мужчын, а яны застаюцца ў баку. Таму я вырашыў зрабіць некалькі жаночых касцюмаў, калі не для бою, то для танцаў пад сярэднявечную музыку. У іх таксама можна патанцаваць у суботу.

У планах Аляксандра зрабіць яшчэ дзіцячыя касцюмы, каб хлопчыкі з дзяцінства адчувалі сябе сапраўднымі абаронцамі.

Метадыст цэнтра **Анжаліка Каралевіч** падкрэсліла, што ў суботу пройдзе толькі прэзентацыя, а сам клуб ад 1 верасня ўжо працуе ў цэнтры:

– Вельмі хочацца, каб суботняе мерапрыемства зацікавіла больш падлеткаў, каб яны прыйшлі потым на заняткі. Як кажуць арганізатары, ім нецікава працаваць з тымі, хто прыходзіць толькі адзін раз. Хочацца, каб у моладзі была цікавасць да гісторыі.

У перспектыве ў планах кіраўнікоў клуба і цэнтра “Расток” стварэнне музея сярэднявечча.

– У нас вельмі шмат рэчаў, якія вартыя таго, каб іх убачылі ўсе, засталося толькі знайсці ім памяшканне, – адказаў Аляксандр Шоць.

Пачатак мерапрыемства а 15 гадзіне. Дзіцячы цэнтр “Расток” знаходзіцца на вуліцы Канстанцыі Буйло, 1.

**Наталля ТУР.**



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 6 | 7 | | |
| | | | 9 | 2 | | | 4 | |
| | 2 | | 5 | 8 | | | | 3 |
| | 1 | 8 | | | | 4 | | |
| | 5 | | | | | | 8 | |
| | | 7 | | | | 2 | 6 | |
| 6 | | | | 1 | 2 | | 3 | |
| | 8 | | | 3 | 5 | | | |
| | | 1 | 7 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧАНШЧЫНЫ



Фота Настассі РОЎДЫ.

**"Вось яна, бульбачка! Вось яна, наша!". Пенсіянеры і рабочыя пасёлка Партызанскі, што на Вілейшчыне, увечары 7 верасня працавалі на полі непадалёк ад Маладзечна. Фотарэпартаж з поля глядзіце на сайце rh.by.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, трылер **“Хлопец з нашых магілак”** (Расія, 2015, пасля 16 год)
13 верасня – у 15:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал **“Хітмэн: Агент 47”** (Германія, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 верасня – у 18:00
12 верасня – у 16:00
13, 16 верасня – у 17:00
14 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, прыгоды **“Канікулы”** (ЗША, 2015, з 18 год)
12 верасня – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік **“Атака Тытанаў. Фільм першы: Жорсткі свет”** (Японія, 2015, пасля 16 год)
11 верасня – у 20:00
12 верасня – у 22:00
13, 14, 16 верасня – у 19:00
15 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000-50 000

Прэм'ера! Анімацыя, фэнтэзі **“Незвычайнае падарожжа Серафімы”** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
11 верасня – у 16:20
12 верасня – у 14:20
13 верасня – у 13:20
14, 15 верасня – у 17:20
16, 17 верасня – у 15:20
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі **“Пікавая дама: Чорны абрад”** (Расія, 2015, пасля 16 год)
11 верасня – у 22:00
12 верасня – у 20:00
13, 16 верасня – у 21:00
15 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000-50 000

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя **“Кунг фу Трусік: Валадар агню”** (Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
17 верасня – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, фантастыка **“Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём”** (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
17 верасня – у 19:00 і 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, камедыя, сямейны **“Паштальён Пэт”** (Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
11 верасня – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **“Самыя праўдзівыя гісторыі”** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
12 верасня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **“Чароўная краіна”** (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
12 верасня – у 15:00
13 верасня – у 14:30
16 верасня – у 18:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды, сямейны **“Суперкаманда”** (Аргенціна, Іспанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
12 верасня – у 17:00
13 верасня – у 16:30
15 верасня – у 18:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі, меладрама, прыгоды **“Па-за часам”** (Аўстралія, 2014, пасля 16 год)
11 верасня – у 19:00
12 верасня – у 21:00
13 верасня – у 19:30
14, 16 верасня – у 20:00
17 верасня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **“Небяспечнае пагружэнне”** (Вялікабрытанія, 2015, пасля 16 год)
11, 13 верасня – у 21:30
12 верасня – у 19:00
14 верасня – у 18:00
15, 17 верасня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер **“Перавага”** (Вялікабрытанія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11, 12 верасня – у 17:30
13 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік, драма **“Пампеі”** (Канада, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11, 12 верасня – у 20:00
13 верасня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **“Прыгоды мышаняці”** (Перу, без узроставых абмежаванняў)
12 верасня – у 13:30
13 верасня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **“Кінадзяцінства. Цішэй, бабуля спіць”** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 верасня – у 15:00
13 верасня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **“Незвычайнае падарожжа Серафімы”** (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
11 верасня – у 17:00
12 верасня – у 15:00
13 верасня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Фантастыка, трылер **“Не ў сабе”** (2D, ЗША, пасля 16 год)
11 верасня – у 18:30
13 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі **“Пікавая дама: Чорны абрад”** (2D, Расія, 2015, пасля 16 год)
11, 13 верасня – у 21:00
12 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка **“Фантастычная чацвёрка”** (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 верасня – у 13:00
13 верасня – у 17:00
Цана білета 45 000 рублёў

Крымінальная камедыя **“Агенты U.N.C.L.E.”** (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 верасня – у 16:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, прыгоды **“Канікулы”** (2D, ЗША, пасля 18 год)
12 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя **“Хлопец з нашых магілак”** (2D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13 верасня – у 13:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
11-17 ВЕРАСНЯ

**Авен.** Вы атрымаеце адчувальны штуршок сваім справам, асабліва тым, якія вы выношвалі і не рашаліся пачаць.

**Цялец.** Калі вы ведаеце, што такое шчасце, то пастарайцеся захаваць тое адчуванне як мага даўжэй. І часцей вяртайцеся да гэтага стану.

**Блізняты.** Правядзіце выхадныя з каханым чалавекам, каб у вас не ўзнікла прычын для рэўнасці.

**Рак.** Старайцеся ісці па жыцці лёгка, і сцежкі лёсу самі выведуць вас туды, куды трэба. Расслабцеся і не складайце далёка ідучых планаў, не мітусіцеся і не хвалюйцеся, і тады вы самі заўважыце, якое цудоўнае жыццё і як шмат у ім радасных момантаў. А ўсё негатыўнае адступіць і не будзе больш нагадваць пра сябе.

**Леў.** Закіньце ўсе не тэрміновыя справы, займіцеся тым, што сапраўдны важна цяпер. І не сумнявайцеся ў сваім поспеху, вы можаце самі кіраваць ім.

**Дзева.** Вы даб'яцеся лепшага выніку, калі меней будзеце гаварыць пра свае праблемы, а ўважліва выслухоўваць меркаванне навакольных.

**Шалі.** Наступае ваш зорны час, пастарайцеся выкарыстаць яго максімальна рацыянальна.

**Скарпіён.** Каб падтрымліваць цяпло і ўтульнасць дамашняга ачага, а таксама камфортныя адносіны з блізкімі вам людзьмі, мала проста карыстацца гэтымі адносінамі. Трэба прыкласці нямала намаганняў, у тым ліку і над сабой.

**Стралец.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы ставіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.

**Казярог.** Не рабіце неабдуманых учынкаў, не трацце дарэмна энергію і не заключайце сумнеўных здзелак. Калі вам удасца пазбегнуць неканструктыўных дзеянняў, вы адкрыеце дарогу да бяспечнай будучыні, дабрабыту.

**Вадалей.** Вы атрымаеце ўсё неабходнае, каб ажыццявіць свае жаданні і даўно задуманыя планы. Выберыце асноўны напрамак для дзейнасці і праявіце максімум працавітасці і намаганняў для дасягнення мэты.

**Рыбы.** Ваш фінансавы стан наладзіцца, і вы атрымаеце новыя станоўчыя эмоцыі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

## ● НАДВОР'Е

### 12 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Ндзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +11 / +15 | | +11 / +15 | | +11 / +12 | | +10 / +16 | |
| | 754 | ← 6 | 752 | ← 7 | 751 | ↖ 6 | 747 | ↖ 7 |
| Вільня | +9 / +15 | | +10 / +16 | | +11 / +14 | | +8 / +16 | |
| | 764 | ← 4 | 761 | ↖ 6 | 759 | ↖ 6 | 755 | ↖ 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.38
Захад 19.37
Даўжыня дня 12.59

Усход 5.37
Захад 19.07
Квадра 4




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +0,5 °С у 1973 годзе
Максімальная тэмпература +26 °С у 2005 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,8 мм у 2009 годзе
Назіранні за 60 гадоў. Паводле meteoinfo.by



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якім чынам маладая сям'я можа атрымаць жыллё?



**Пётр Гаўрылін, пенсіянер:**
– Кожны мужык павінен зарабіць, як гаворыцца, і пабудаваць сваю хату. На дзяржаву не трэба спадзявацца, дзяржава не можа ўсім даваць, і даваць, і даваць. А да гэтага жыць у інтэрнаце. Я атрымаў інтэрнат і мучыўся 10 гадоў. А адразу маладым людзям ніхто нічога не дасць.



**Алена Стахоўская, пенсіянерка:**
– Стаць у чаргу, канешне, трэба, але ўсё роўна ўсё вырашаюць грошы. Раней ад розных прадпрыемстваў давалі жыллё, таму чалавек стараўся, зарабляў, а цяпер і прадпрыемстваў нідзе такіх няма. А крэдыт узяць таксама грошы трэба, каб выплачваць.



**Ірына Бурдзь, прадавец:**
– Мы з мужам, напрыклад, стаім у чарзе з 97-га года. Яшчэ хацелі атрымаць арэнднае жыллё, але не атрымалася. А кватэра яшчэ ўвогуле незразумела, калі будзе, таму пакуль жывём у інтэрнаце.



**Вольга Мамай, падмэнная выхавальніца:**
– Нашай сям'і адзін год, але ў чаргу мы пакуль не станавіліся і цяпер наймаем кватэру. Нам бацькі дапамагаюць. Вядома, хочам сваё жыллё, але я так разумею, што нават калі стаць у чаргу, то ўсё роўна справа хутка не вырашыцца. А так зарабляем, можа, паціху, і накопім.



**Віктар Талстой, вадзіцель:**
– Мы жылі ў бараку, а калі яго знеслі, то ўсім пайналетнім далі жыллё. Гэта было ў 92-м годзе. А мой бацька, напрыклад, чакаў кватэру 30 гадоў і не дачакаўся. Лічу, што моладзі дзяцей трэба нараджаць, з імі больш верагоднасці нешта атрымаць, асабліва шматдзетным сем'ям.



**Люба Мяцеліца, студэнтка:**
– Калі і ствараць гэту маладую сям'ю, то ўжо з адкладзенымі грашыма і пастаянным заробкам. Каб мець магчымасць спачатку наймаць, а потым будаваць кватэру. У чаргу стаць можна, але хутчэй на "ўсякі выпадак". А сям'і ў інтэрнаце ўвогуле не магу ўявіць, асабліва з дзецьмі.



**Міхаіл Глухій, пенсіянер:**
– Пры савецкай уладзе ўсе атрымлівалі кватэры ад заводаў, прычым бясплатна. Уся тэхналогія. Цяпер маладой сям'і складана нешта пабудаваць. У нас у Маладзечне, па чутках, увогуле будоўля памерла. Так што вельмі пашанцуе, калі маладым могуць дапамагчы бацькі, а так – гіблая справа.

**Падрыхтавала Дар'я БАБЕНКА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№37 (1063) 11.09.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1173. Падпісана ў друк у 9.00 10.09.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.